№ 81 (4128)

18 кастрычніка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**СКАЗАНО!**



Александр ШАТЬКО, заместитель руководителя Республиканского общественного объединения «Белая Русь»:

*– Мы позиционируем себя как объединение, созданное для поддержки нынешней власти и Президента, он является нашим лидером.*

*(«Союзное вече», 10 октября 2016 года.)*

**БЛИЦ–КОММЕНТАРИЙ**

Господин Шатько!

Ваша откровенность, честно говоря, поражает. И не стыдно Вам открыто признаваться в том, кому члены «Белой Руси» служат – Александру Лукашенко, а не белорусскому народу. Видите ли, объединение создано **«для поддержки нынешней власти»**. А если власть поменяется, то что, Вы и все Ваши соратники разбежитесь в разные стороны? Коль объединение создано для поддержки персонально А.Лукашенко, то можно предположить, что с его уходом с президентского поста движение развалится.

Получается, интересы страны, государства для Вас, господин Шатько, и для остальных членов объединения «Белая Русь» ничего не значат. В таком случае можно сделать вывод, что тех, кто вошел в организованную структуру, беспокоит одно: как подольше удержать у власти А.Лукашенко. Вы – его опора, а значит, пока он у руля государства, Вы не останетесь без его вознаграждения. Посмотрите на состав «Белой Руси» – рядовых людей почти нет, в основном чиновники и начальники разных уровней. Сколько карьеристов!

А в это время Беларусь, если брать экономику, уровень жизни людей, катится по наклонной. Вас же, господин Шатько, это, похоже, не тревожит. Печально, очень печально!

**СВЕДЧАЦЬ ЛІЧБЫ**

## Склад Палаты прадстаўнікоў:

мужчыны – 72,
жанчыны – 38.
Тых, хто быў дэпутатам папярэдняга склікання, – 27.

## Прадстаўніцтва партый:

Камуністычная партыя Беларусі – 8,
Патрыятычная партыя – 3,
Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці – 3,
Аб'яднаная грамадзянская партыя – 1,
Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі – 1.

**АКЦЫЯ**

## За бел-чырвона-белы сцяг – больш за 100 пратаколаў

*Заўтра заканчваецца акцыя па зборы подпісаў за наданне бел-чырвона-беламу сцягу статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці.*

Нагадаем, што гэтая акцыя распачалася 19 верасня, арганізатары плануюць закончыць яе праз месяц.

*"На зборшчыкаў подпісаў міліцыянеры фактычна кожны дзень складалі пратаколы, калі бачылі, што збор праходзіў пад бел-чырвона-белымі сцягамі*, – распавёў адзін з ініцыятараў мерапрыемства **Зміцер Дашкевіч**. – *Цягам месяца на нашых актывістаў было складзена больш за 100 адміністрацыйных пратаколаў. Але радуе, што людзі актыўна адгукнуліся на нашу ініцыятыву. За гадзіну за бел-чырвона-белы сцяг падпісваліся ў сярэднім па 25–40 чалавек".*

**ГІСТОРЫЯ ФОТАЗДЫМКА**

# Станіслаў ШУШКЕВІЧ: «Цудоўны быў чалавек...»



Анджэй Вайда...

Упершыню былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч сустрэўся са знакамітым польскім рэжысёрам у 1974 годзе ў экспрэс-цягніку Кракаў–Варшава.

*"З рэжысёрам мы аказаліся ў адным вагоне,* – успамінае Станіслаў Станіслававіч. – *Вельмі хацелася з ім пазнаёміцца, падзякаваць за пастаўленыя спектаклі, на якіх я паспеў пабываць падчас чытання лекцый у Ягелонскім універсітэце ў Кракаве, за фільмы. Аднак зрабіць гэта было дастаткова складана – не дазваляў натоўп прыхільнікаў. Але праз 42 гады, 5 чэрвеня гэтага года, мне пашэнціла, і я пазнаёміўся ў Польшчы з ужо легандарным Анджэем Вайдам".*

У 30 кіламетрах ад Вроцлава ёсць мястэчка, дзе знаходзіцца Гуманітарны даследчы цэнтр. Туды запрасілі Станіслава Шушкевіча. У якасці ганаровага госця прыехаў і кінарэжысёр. Але аказалася так, што ехаць ім давялося разам.

*"У Вроцлаве спадар Вайда прапанаваў мне паехаць разам*, – распавядае былы кіраўнік Вярхоўнага Савета. – *У машыне ехалі я, вадзіцель, кінарэжысёр і яго жонка – вядомая польская актрыса Крысціна Захватавіч-Вайда, з якой класік польскага кіно пражыў апошнія 43 гады. Усю дарогу мы правялі ў размовах. Я даведаўся, што трагедыя маіх суайчыннікаў пераклікаецца з асабістай трагедыяй Анджэя Вайды. У недалёкай ад Смаленска Катыні, пад Харкавам і ў іншых лагерах СССР па загадзе Сталіна былі расстраляны ваеннапалонныя – афіцэры польскай арміі: дзясяткі тысяч палякаў, сярод якіх быў і бацька рэжысёра, і тысячы беларусаў, якія прыйшлі служыць у польскую армію з тэрыторыі Заходняй Беларусі ў той час, калі яна ўваходзіла ў склад Польшчы. Суразмоўца быў вельмі добразычлівы ў адносінах да Беларусі. І асабліва сумаваў, што беларусы забыліся, як іх землякоў таксама расстрэльвалі. "Чаму беларусы не ўздымаюць гэтае пытанне? – цікавіўся Вайда. – Павінен жа быць нейкі нацыянальны гонар, усе павінны ведаць праўду гісторыі".*

Здымак, на якім Станіслаў Шушкевіч і Анджэй Вайда нешта абмяркоўваюць, зрабіла жонка кінарэжысёра. Затым Станіслаў Станіслававіч папрасіў у Крысціны Захватавіч-Вайда дазвол выкарыстаць фота ў сваёй кнізе, на што тая адказала: "Калі ласка, для нас гэта будзе вялікі гонар".

*"Цудоўнае фота, і цудоўны быў чалавек*, – кажа Станіслаў Шушкевіч. – *Шкада, што мы пазнаёміліся так позна".*

Як вядома, 9 кастрычніка 2016 года Анджэя Вайды не стала...

**Алесь СІВЫ.**

**ПАЛІТКУХНЯ**




# Як Мілінкевіча на Губарэвіча мянялі

*У мінскім гатэлі "Планета" адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя руху "За Свабоду".*
*Мерапрыемства прайшло палка: хоць да адкрытай бойкі справа не дайшла, але былі абвінавачванні апанентаў у спробе выкарыстання чорнага піяру, воклічы "Ганьба!", высвятленне, хто чым рабом з'яўляецца...*

Тое, што Аляксандр Мілінкевіч, які нязменна быў старшынёй руху "За Свабоду" дзесяць год, сыходзіць са сваёй пасады, для многіх сакрэтам не з'яўлялася. Інтрыга таілася ў тым, хто стане пераемнікам Аляксандра Уладзіміравіча. А кандыдатаў было трое – першы намеснік старшыні руху **Юрась Губарэвіч,** намеснік **Алесь Лагвінец** і прадпрымальнік **Алесь Таўстыка.** Праўда, перад пачаткам мерапрыемства Мілінкевіч прызнаўся, што захоўвае нейтралітэт.

### Іспыт на дэмакратыю

– *Вы прабачце, у мяне голас крыху сеў,* – прызнаўся палітык. – *Учора было пасяджэнне рады, пяць гадзін дыскутавалі...*

**– Аляксандр Уладзіміравіч, вы ўсё ж такі на чыім баку?**

– *Публічна я не падтрымліваю нікога. Я ведаю моцныя і слабыя бакі абодвух сваіх намеснікаў, але я за сапраўдную канкурэнцыю. Калі мы ўладзе такія прэтэнзіі прад'яўляем, то самі павінны паказаць, што мы сапраўды дэмакраты. Хаця іспыт на дэмакратыю цяжкі. Я вельмі хачу, каб канкурэнцыя не прывяла да расколу ўнутры арганізацыі, і спадзяюся, што ў апанентаў хопіць на гэта мудрасці. Галоўнае, каб канкурэнцыя не перарасла ў варожасць.*

Сама справаздачна-выбарчая канферэнцыя пачалася са сняданку ў фармаце шведскага стала. Кавы і піражкоў хапіла не ўсім, але тым не менш дэлегаты, якіх сабралася аж 115, знайшлі ў сабе сілы пачаць працу.

Было відавочна, што сярод дэлегатаў існуюць два лагеры: адзін – за Губарэвіча, другі – за Лагвінца.

Не выключана, што менавіта для таго, каб ацаніць расклад сіл, Алесь Лагвінец, які называў сябе "ненаменклатурным кандыдатам", падтрымаў прапанову дэлегата Дзмітрыя Карэнкі аб унясенні ў парадак дня пытанняў аб зменах у статуце руху "За Свабоду". Карэнка прапанаваў скараціць тэрмін старшынства на 2 гады і абмежаваць колькасць тэрмінаў – не больш за два. Аляксандр Мілінкевіч выказаўся супраць прапановы: маўляў, нідзе ў Еўропе так не робіцца. Тым не менш першапачаткова яна была прынята, аднак высветлілася, што ўдзел у галасаванні не ўзялі некалькі чалавек, якія ўваходзілі ў адну з працоўных камісій канферэнцыі. Пасля перагаласавання высветлілася: прапанова не праходзіць.

### Трое на адно крэсла

Пасля слова ўзяў Аляксандр Мілінкевіч. Было б лагічным распавесці дэлегатам пра тое, што зроблена ім на пасадзе старшыні руху, аднак Аляксандр Уладзіміравіч замест гэтага нагадаў, што рух "За Свабоду" паўстаў на хвалі Плошчы-2006, што ў ініцыятыўную групу па яго стварэнні ўваходзілі 5 тысяч чалавек, а ён, Мілінкевіч, марыў, што рух стане магутнай шматколькаснай палітычнай сілай, але гэтага не здарылася. Таксама палітык публічна выбачыўся перад тымі, хто праз палітычную дзейнасць страціў працу, і тымі, каму рух "За Свабоду" не змог яе знайсці.

Настальгія Мілінкевіча па мінулым не давала адказу на галоўнае пытанне: што будзе з арганізацыяй далей?

Напярэдадні справаздачна-выбарчай канферэнцыі абодва галоўныя кандыдаты на пасаду старшыні публічна паабяцалі: як бы ні закончылася галасаванне, яны з арганізацыі не сыдуць. Алесь Лагвінец нават прапанаваў Юрасю Губарэвічу варыянт двустаршынства – па схеме "роўны побач з роўным". Але Губарэвіч ад прапановы адмовіўся: маўляў, старшыня можа быць толькі адзін – двустаршынства аслабіць арганізацыю.

Агітацыя за магчымых кандыдатаў стартавала тут жа. За Лагвінца з экрана відэапраектара агітавалі культуролаг Максім Жбанкоў і палітык Павел Севярынец. Гэта давяло да шалу некаторых прыхільнікаў Губарэвіча: *"Гэтыя людзі, што былі толькі што на экране, нават у рух не ўваходзяць. Якое права яны маюць агітаваць?!"* Паплечнікі Лагвінца адказалі тым жа – сустрэлі воклічамі "Ганьба!" агітатара за Юрася Губарэвіча.

Аднак у барацьбу за крэсла старшыні руху ўключыўся і трэці прэтэндэнт – самавылучэнец Алесь Таўстыка. Адразу пасля гэтага ўсплыў кампрамат на яго.

***(Заканчэнне на 2-й стар.)***

# Іх лёс хвалюе Беларусь!



Юрый ЗАХАРАНКА
знік 6373 дні таму



Віктар ГАНЧАР
знік 6241 дзень таму



Анатоль КРАСОЎСКІ
знік 6241 дзень таму



Дзмітрый ЗАВАДСКІ
знік 5946 дзён таму

**КАДРЫ**

## Адстраляўся

Мікалай Лазавік вызвалены ад пасады сакратара Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў у сувязі з выхадам у адстаўку.

Адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў учора.

**СУД ДЫ СПРАВА**

## Засведчылі міліцыянеры...

Аднаго з лідараў незарэгістраванай у Беларусі партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталя Рымашэўскага суд Ленінскага раёна Мінска аштрафаваў на 40 базавых велічынь, альбо 840 рублёў.

Учора ў судзе Рымашэўскі даведаўся, што 12 верасня браў удзел у апазіцыйным шэсці супраць вынікаў парламенцкіх выбараў. Рымашэўскі, праўда, заявіў, што ў акцыі не ўдзельнічаў, а на акцыю прыйшоў, каб пагаварыць са знаёмымі актывістамі. Але міліцыянты, якія прысутнічалі ў судзе, засведчылі, што Рымашэўскі крычаў «Жыве Беларусь!».

Яшчэ адным доказам удзелу сустаршыні аргкамітэта БХД у акцыі стаў фотаздымак, зроблены падчас шэсця 12 верасня. На ім Рымашэўскі стаіць у атачэнні некалькіх асоб. І хаця па фатаграфіі немагчыма было сказаць, ці сапраўды Рымашэўскі нешта крычаў, суду доказаў падалося дастаткова, каб прызнаць яго вінаватым і выпісаць штраф.

Народная Воля http://www.nv-online.info 18 КАСТРЫЧНІКА 2016 г.

ГРОМКАЯ ТЕМА



## Дело о строительстве домов в Ратомке дошло до президента

Об этой истории не так давно подробно писала «Народная Воля». Люди, вложившие деньги в строительство жилья в поселке Ратомка Минского района, не могут вселиться в свои квартиры, потому что дома не принимают в эксплуатацию. Те, кто решил поселиться рядом со столицей, опасались, что не увидят ни денег, ни жилья. Оказалось, фирма-застройщик ОАО «Драйрона» нарушила условия инвестиционного договора и фактически занималась самовольным строительством. Вместо заявленных коттеджей, а затем трехэтажных домов, безо всяких согласований возвела четырехэтажные.

Одно время шла речь о сносе десяти домов, но, к счастью, сейчас вопрос так не стоит. Ситуация находится на постоянном контроле у Генпрокуратуры. Теперь «Драйрона» должна получить документы, подтверждающие, что жилье безопасно, соответствует санитарным требованиям, не наносит ущерба экологии. «Драйроне» выдали пошаговый план действий и конкретные сроки исполнения.

Внушителен и список чиновников, которых могут привлечь к ответственности за то, что вовремя не отреагировали на ситуацию с возведением домов в Ратомке. Главный архитектор Минской области **Александр Волович** свое возможное увольнение из-за строительства домов в Ратомке комментировать не стал. В приемной Миноблисполкома ответили так: «*Председатель облисполкома Семен Шапиро выйдет из отпуска, будет решать*».

Кстати, инвестиционный договор с фирмой, которая обязалась произвести малоэтажную застройку в Ратомке со всей соответствующей инфраструктурой, заключался не при нынешнем председателе Минского облисполкома **Семене Шапиро**, а при его предшественнике **Борисе Батуре**. Но с последнего, как говорится, взятки гладки, он на пенсии.

Не так давно чиновники Миноблисполкома направили ходатайство на имя А.Лукашенко о том, чтобы ввести дома в эксплуатацию. Почему эта история дошла до президента? В облисполкоме, ссылаясь на Гражданский кодекс, «Народной Воле» объяснили так: строительство домов в Ратомке связано с нецелевым использованием земельного участка, поэтому по законодательству подлежит сносу, «*если иное не определено президентом*».

В Генпрокуратуре уверяют, что тем, кто планировал жить в Ратомке, волноваться не о чем: «*Государство на улице этих людей не оставит*».

**Марина КОКТЫШ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## Як Мілінкевіча на Губарэвіча мянялі



***(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)***

Намесніца старшыні руху Галіна Скараход заявіла, што ў кіраўніцтва арганізацыі маюцца прэтэнзіі да Таўстыкі праз тое, што ў абыход кіраўніцтва рады руху "За Свабоду" той піша лісты з прэтэнзіямі ў незалежныя СМІ і замежныя амбасады. Яго паводзіны разбіраліся на пасяджэнні рады, куды Таўстыка не прыйшоў. Але гэта не зашкодзіла яму стаць кандыдатам у старшыні руху. Перад прамовай ён упрыгожыў трыбуну трыма сцяжкамі – бел-чырвона-белым, сцягамі Еўрасаюза і ЗША. У сваёй праграмнай прамове кандыдат казаў пра неабходнасць увядзення ў дзеянне "нармальнай мяжы з Расіяй", кантролю за наркатрафікам, які трапляе ў Беларусь адтуль, а таксама пра перамогу на прэзідэнцкіх выбарах-2020.

Два іншыя кандыдаты засярodзіліся на праблемах больш лакальных. Юрась Губарэвіч распавядаў пра свае паездкі ў рэгіёны, удзел у разнастайных акцыях пад сцягамі руху "За Свабоду" і паабяцаў у выпадку свайго абрання прапанаваць пасаду першага намесніка Алесю Лагвінцу. Той прамаўчаў.

Абстаноўка патроху напалялася, падзел на два лагеры, які ўпарта адмаўлялі кандыдаты, рабіўся ўсё больш відавочным. Сітуацыю выратаваў абед, якому папярэднічала галасаванне за новага старшыню руху "За Свабоду".

### «Я не твой раб...»

Працэдура галасавання была сапраўды дэмакратычнай. Дэлегаты канферэнцыі атрымалі бюлетэні, у якіх значыліся тры прозвішчы і два варыянты адказу – "за" і "супраць". Аркушы паперы апускаліся ў маленькія празрыстыя скрыні з выявай "Пагоні".

Пакуль дэлегаты абедалі, карэспандэнт "Народнай Волі" назіраў за падлікам галасоў, стоячы за паўметра ад стала, дзе іх падлічвалі. У адным з бюлетэняў былі пастаўлены дзве птушачкі. "Прапаную залічыць гэты голас за Губарэвіча", – сказала Іна Кулей, жонка Аляксандра Мілінкевіча. Сваю думку яна патлумачыла так: "Відавочна, чалавек памыліўся". Пытанне наконт спрэчнага голасу было пастаўлена на галасаванне.

У выніку дэмакратыя перамагла – бюлетэнь прызналі несапраўдным. Былі выяўлены яшчэ два такія. Два галасы атрымаў Алесь Таўстыка. За Алеся Лагвінца прагаласаваў 51 дэлегат. А перамог Юрась Губарэвіч з 59 галасамі.

Прайграўшы, Лагвінец вонкава трымаўся спакойна. Ён паціснуў руку Губарэвічу і пацвердзіў свой намер застацца ў руху. Губарэвіч таксама сваё слова стрымаў – прапанаваў Лагвінцу пасаду першага намесніка: "Па сабе ведаю, гэта неблагая пасада, дзе можна цалкам рэалізаваць свае амбіцыі". Лагвінец адмовіўся. А далей у зале пачалася сапраўдная вакханалія: пад шум, лямант і папрокі дэлегаты выбіралі намеснікаў новага старшыні.

Адна з такіх пасад была прапанавана Юрасём Губарэвічам Алесю Таўстыку. На што той адрэагаваў даволі бурна: "Я не твой раб! Чаму ты папаўняеш мной сваю правацэнтрысцкую кааліцыю?" Аднак Губарэвічу ўдалося супакоіць "бунтаўшчыка".

Адзначым, што ніводны з тых, хто галасаваў за Алеся Лагвінца, не пагадзіўся стаць намеснікам Губарэвіча. Людзі папросту ўзялі самаадводы. Новымі намеснікамі старшыні руху "За Свабоду" сталі Галіна Скараход, Юрый Меляшкевіч і Кірыл Стаселька.

Ці захавае рух "За Свабоду" сваю еднасць? Юрый Губарэвіч адказаў на гэтае пытанне так: "*Я спадзяюся, што ніякага расколу не будзе, усе пытанні будуць вырашаны ў рабочым рэжыме, бо мне хочацца верыць, што людзі прыходзяць у нашу арганізацыю не пад пэўных асоб, а дзеля карысці і будучыні Беларусі*".

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Узел развязан?

Выражаясь языком Лукашенко, очередные нефтегазовые баталии с Москвой отгремели. Вроде бы… Потому что последние заявления переговорщиков были путаными и даже взаимоисключающими. Так, вице-премьер Семашко, усталый после марафонских переговоров, наконец изрек: «*Мы получили одномоментное существенное снижение цены газа уже в этом году и другую поддержку со стороны России. И далее мы наметили и протоколом обозначили траекторию снижения цены в последующие годы*». Тогда как российский премьер Медведев заметил: «*Наши партнеры вернутся к исполнению контракта. Надлежащим образом будут выплачивать ту цену, которая предусмотрена в контракте на основании существующей формулы*». *Понимай как хочешь. Практически одновременно из телефонного разговора между премьерами России и Беларуси стало известно, что «российской стороной подтверждена готовность применения механизма межбюджетной компенсации»*.

Судя по всему, здесь, как говорится, и собака зарыта. По утверждению российской стороны, задолженность по платежам за газ в размере 281 млн долларов, которая возникла по причине самовольного снижения Беларусью цены, будет погашена в полном объеме до 20 октября. Сразу возникает вопрос: из каких источников белорусское правительство без ущерба для экономического здоровья возьмет такую приличную сумму? Ведь наши золотовалютные резервы и так на минимуме, а валютная выручка падает четвертый год подряд. За январь–август по сравнению с аналогичным периодом прошлого года она уменьшилась на 3,5 млрд долларов, или на 15,6%.

Я, оценивая ситуацию, рассчитывал на российскую рассрочку. Ан нет! Как подтвердили в телефонном разговоре премьеры, на 2016 год сохраняется механизм формирования цены на газ для Беларуси аналогично прошлому году.

По словам министра энергетики Беларуси Потупчика, до 1 июля 2017 года цена будет рассчитываться по старой формуле: Ямало-Ненецкий автономный округ, где добывается газ, плюс плечо доставки и прочие накрутки («ЯНАО плюс»). Появилась возможность до 1 июля 2019 года создать общий электроэнергетический рынок, а с 1 января 2025 года – общий рынок газа.

Но главное, что выбила белорусская сторона, так это те самые «межбюджетные компенсации». Как отмечает «Коммерсантъ», «фактическая цена газа снизится, но потери понесет не «Газпром», а российский бюджет». В 2016 году компенсация Минску от Москвы составит около 25 млрд российских рублей (почти 400 млн долларов), а в 2017-м – около 56 млрд (около 900 млн долларов). Кроме того, россияне обещали компенсировать недопоставки нефти против запланированных, которые имели место с июля месяца и обвалили валютную выручку Беларуси и ВВП.

Так или иначе Москва, как это и ожидалось, в очередной раз уступила в итоге своему союзнику. Обе стороны сохранили хорошую мину при плохой игре. Москва понимает: для того чтобы добить окончательно белорусскую экономику, сегодня много не нужно. Ей это надо? Еще больше ей не надо, чтобы этот дурной пример стал заразительным для других потребителей российского газа в СНГ. Это с одной стороны. С другой – действительно, формула цены на газ («ЯНАО плюс») уже не отвечает реалиям на фоне обвала мировых цен на нефть и соответственно на газ. Минск на переговорах действовал по принципу «не имей сто рублей, а имей нахальную морду». Конечно, белорусское руководство будет рассчитывать на то, что компенсации из российского бюджета будут безвозмездными.

Таким образом, будем считать, что нефтегазовый узел развязан, нефтегазовые тиски, которые с июля добивали вконец белорусскую экономику, ослабли. Но можно ли белорусскому руководству вздохнуть с облегчением? Думаю, нет. Экономика Беларуси остается прежней. С высокой долей убыточных и низкорентабельных предприятий, которым и энергетические поблажки России не помогают. Она остается экономикой, которая долгие годы существует за счет рефинансирований внешней задолженности, то есть, не взяв новые кредиты, Беларусь не в состоянии расплатиться со старыми долгами. Потому так же упорно правительство торгуется за кредит с МВФ. Экономикой, полностью зависимой от конъюнктуры мировых цен на нефть и калийные удобрения. Экономикой на российском содержании. И «сверхдержава» может легко прикрыть источники белорусского процветания в любую минуту.

Пока шли финальные переговоры, Лукашенко успел посетить Китай, Пакистан и сделать много еще чего. Заявил, например, что Беларусь ведет переговоры с Ираном о поставках нефти. Безусловно, уходить от полной нефтегазовой зависимости от России необходимо. Но наши НПЗ заточены на переработку именно российской нефти. А в каждом регионе нефть своя, часто не взаимозаменяемая. Надо менять технологию ее переработки. Следует обратить внимание и на литовский терминал по приему сжиженного газа от танкеров. Это требует немалых затрат и усилий. Но в этом направлении необходимо работать. Лучше раньше, чем поздно.

КОЛОНКА ЮРИСТА



На вопросы читателей «Народной Воли» отвечает юрист, руководитель правозащитного центра «Правовая помощь населению» (Киев, Украина) Олег ВОЛЧЕК.

## Отсутствие работы ответственности не снимает

***Так получилось, что в течение трех месяцев я не смог найти работу, а жена обратилась к судебному исполнителю, который посчитал, что я уклоняюсь от уплаты алиментов. Мне грозит возбуждение уголовного дела. Скажите, пожалуйста: тот факт, что я не мог быстро трудоустроиться, будет являться уважительной причиной и расцениваться как отсутствие умысла на невыполнение обязательств по алиментам?***

**Анатолий Козловский, Минск.**

Действительно, в Уголовном законодательстве предусмотрена ответственность за неуплату алиментов по ст.174 УК Республики Беларусь. Ответственность по данной статье наступает, если должник уклонялся от уплаты средств на содержание детей более трех месяцев (суммарно) в течение года.

Необходимо подчеркнуть, что ответственность за неуплату алиментов в рамках уголовного законодательства наступает только в том случае, если выплата алиментов присуждена решением суда.

Чтобы избежать оснований для возбуждения уголовного дела, вам следовало постоянно контактировать с судебным исполнителем отдела принудительного исполнения, ведь для наличия данного состава преступления должна быть доказательная база уклонения от уплаты алиментов.

Если бы вы не могли выплачивать алименты, потому что по вине работодателя вам задерживали зарплату, вы длительное время болели, были другие уважительные причины, то это расценивалось бы как отсутствие умысла на невыполнении своих обязательств по алиментам. Но безуспешные попытки найти работу не снимают с вас ответственности ежемесячно выплачивать определенные денежные суммы на содержание ребенка.

Платите ежемесячно посильную сумму на содержание ребенка, и это будет серьезным аргументом, что вы погашаете задолженность, а у судебного исполнителя не будет правовых оснований обращаться с представлением в органы внутренних дел для возбуждения уголовного дела.

СТОП-КРАН

## Не прыглянулася…

*На лецішча пенсіянеркі Ніны Багінскай, якой улады, каб спагнаць штрафы, выставілі на аўкцыён, па-ранейшаму не знайшлося ніводнага пакупніка.*

Нагадаем, што апошнім часам за ўдзел у вулічных акцыях пенсіянерцы налічылі штрафы агульным памерам каля 7000 рублёў. Каб спагнаць іх, судовыя выканаўцы абвясцілі аўкцыён па продажы лецішча грамадскай актывісткі.

Першы аўкцыён прайшоў яшчэ 17 жніўня ў Смалявічах. На продаж быў выстаўлены зямельны ўчастак 70-гадовай пенсіянеркі памерам 7 сотак з садам і агародам, а таксама садовы дом плошчай 27 квадратных метраў. Стартавая цана – 10.000 рублёў. Праўда, аўкцыён не адбыўся, бо не знайшлося пакупнікоў.

3 кастрычніка адбыўся паўторны аўкцыён. І зноў – ніводнага пакупніка.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТАКАЯ ЖИЗНЬ

## Пенсии – на 5%, а цены на продукты – на 10%

**С** декабря белорусские пенсионеры получат пенсию на 5 процентов больше. Этого повышения они ждали больше года – последний раз трудовые пенсии в стране индексировались в сентябре прошлого года.

Но только за 9 месяцев этого года цены в Беларуси выросли в среднем на 7,8 процента. А за год с сентября 2015-го по сентябрь 2016-го и продукты, и лекарства, и одежда подорожали еще больше.

Согласно данным Нацстата, цены на продукты питания за этот промежуток времени выросли в среднем на 10 процентов, на непродовольственные товары – на 8,4, а на услуги – на 18,6 процента! Так что будущее повышение пенсий инфляция уже давно съела.

### Об изменении потребительских цен в сентябре 2016 г. (в процентах)

| | Сентябрь 2016 г. к | | | Январь–сентябрь 2016 г. к январю-сентябрю 2015 г. |
|---|---|---|---|---|
| | августу 2016 г. | декабрю 2015 г. | сентябрю 2015 г. | |
| Индекс потребительских цен | 100,7 | 108,3 | 111,1 | 112,1 |
| в том числе: | | | | |
| продовольственные товары | 100,7 | 106,0 | 110,0 | 110,4 |
| непродовольственные товары | 100,5 | 107,0 | 108,4 | 110,1 |
| услуги | 100,9 | 116,3 | 118,6 | 119,9 |

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

БЛИЦ

## Как ваши дела?

*Такой простой и короткий вопрос «Народная Воля» задала двум известным белорусским бизнесменам, к которым в недалеком прошлом имели серьезные вопросы правоохранительные органы.*



### Евгений БАСКИН: «Все хорошо!»

– Все хорошо! Но все комментарии исключительно через нашу пресс-службу. Общаться не готов.

*Напомним, что Евгений Баскин вместе с коллегами по «Серволюксу» (всего 15 человек) 14 марта был задержан сотрудниками КГБ. По словам главы этого ведомства Валерия Вакульчика, Баскин и его финансовый директор были задержаны в минском аэропорту при попытке скрыться за границей.*

*22 марта Баскина перевели под домашний арест «в связи с вновь открывшимися обстоятельствами». 1 июля стало известно, что бизнесмен полностью возместил ущерб (речь о нескольких десятках миллионов долларов) и отпущен под подписку о невыезде.*

*Баскин написал прошение об освобождении его от уголовной ответственности.*



### Юрий ЧИЖ: «Выводы сделал…»

– Спасибо за звонок, дела нормально, – *бодрым голосом ответил Юрий Александрович*. – Работа, здоровье – тоже в порядке.

Но от подробного общения с прессой пока воздержусь. Специально пока не хочу общаться. Пусть пережуют то, что написали за время моего отсутствия. Я считаю, низко на таком уровне впадать в какую-то полемику…

Чему научила меня история с арестом? Многому. Соответствующие выводы я для себя сделал. Но сейчас не готов об этом откровенно рассказывать. Может, когда-нибудь встретимся – обсудим. Не сейчас – позже.

*Владельца группы компаний «Трайпл» задержали вечером 11 марта. В СИЗО КГБ он провел почти полгода. Пока Юрий Чиж находится под подпиской о невыезде, но, по его словам, он свободен в перемещениях по стране. По некоторой информации, Чиж, которого обвиняли в неуплате налогов в особо крупном размере, также возместил ущерб. Правда, пока не ясно, писал ли он прошение о помиловании на имя А.Лукашенко.*

**Марина КОКТЫШ.**

ДИПКУРЬЕР

## Посольство Словакии переезжает

*Поэтому больше недели – с 21 по 31 октября – консульский отдел посольства будет закрыт.*

*«Переезд Посольства Словацкой Республики в новые помещения (по тому же адресу, только на этаж выше) привнесет значительные улучшения в оказание консульских и визовых услуг посольства, а также больший комфорт для заявителей»*, – объяснили в посольстве.

Для справки: в 2015 году посольство выдало в общем 8816 виз, из которых 27% – сроком на 1–5 лет. Процент отказов по обращениям уже длительное время составляет менее 1% (для сравнения: в 2014 году – 0,36%, в 2015 году – 0,13%).



Народная Воля http://www.nv-online.info 18 КАСТРЫЧНІКА 2016 г.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

## Знак беды, или На войне как на войне

Мы посмотрели друг на друга и, кажется, все поняли без слов. Я нехорошо зыркнула на большую спортивную сумку стоящего рядом человека: а вдруг маньяк? Он тоже огрызнулся глазами: мол, чего уставилась? И наше сознание моментально, думаю, прошила одна и та же мысль: а доверия-то стало меньше. Поколеблено доверие! Очень важное чувство, которое позволяет двум миллионам минчан существовать в городском котле в более-менее товарищеском состоянии: стоять вместе в очередях, ездить плечом к плечу в транспорте, сидеть локоть к локтю в кинотеатрах, кафе, концертных залах, улыбаться и говорить «извините», «здравствуйте», «спасибо» даже незнакомым людям… Доверие, тонкая смазка – практически аромат – которого держит наше разношерстное человеческое сообщество в мирном равновесии, было также порублено топором в торговом центре «Европа» в прошедшую субботу. Вы не задумывались над этим?

И это еще одна жертва подростка-психопата. Не менее катастрофическая, фатальная, чем погибшие и раненые люди.

Многие тут же нашли в трагедии социально-политические истоки: правительство бездарно экономит на здравоохранении, на штатных единицах психиатров, в стране не хватает психиатрических стационаров. А вот у соседей в Европе не экономят. (Но, смотрите, как мистически соединились эти два названия Европа и «Европа» – как будто нам передают страшную эстафету катастроф…) В Германии, Франции или в Северной Европе здравоохранение действительно на несравненно более высоком уровне, чем у нас. И? Скажете, там меньше убийц-террористов? Не религиозных фанатов-беженцев, а именно представителей титульных наций, которые стреляют в своих соотечественников в кафе, в школах, в летних лагерях? Не меньше, а больше! Один только акт само-убийства немецкого пилота Андреаса Любитца, направившего весной 2015-го самолет в гору во французских Альпах и погубившего вместе с собой 149 человек, чего стоит… А норвежский террорист Брейвик, на счету которого 77 человеческих жизней? И разве не спрашиваем мы порой у близких, которые собираются на отдых за границу: «А стоит ли в Европу? Там настоящий террор».

Нет, медики эту проблему окончательно не решат никогда, врачей и коек в стационарах всегда будет меньше, чем наших буйных сородичей. Это страшный вывод, но лучше смотреть на реалии без иллюзий: эффективно, раз и навсегда защитить общество от подобных атак невозможно. Случаи неконтролируемой агрессии будут случаться. Потому что такие дикие, беспричинные нападения на себе подобных – знак времени. Знак беды, своего рода плата человека за безнадежный уход от живой природы к новым идолам: комфорт, скорость, деньги.

Уже и так многое трансформировалось в нашей жизни, вы не находите? Я росла в Минске, когда самостоятельно, без родителей, можно было ходить по городу уже с младших классов школы – в парки, кинотеатры, библиотеку, к бабушке через три остановки по проспекту. Заметьте – практически бесконтрольно, потому что в 1960–1970-е далеко не у всех стояли еще даже домашние телефоны. Тогда, помню, многие не знакомые лично, но жившие в одном микрорайоне люди еще даже здоровались друг с другом – нас так учили в школе. А студенткой я спокойно села в чужой автомобиль во время проливного дождя, который накрыл меня неожиданно около цирка, чтобы успеть к представлению в оперный театр. И только когда рассказала дома, «как мне повезло», мама попросила быть осторожнее: «Ты уже девушка, не провоцируй…» Ну, здесь я, конечно, включила «красный свет», природа подсказала. А так весь город – дом, а горожане – братья и сестры.

Точно так же росла и моя дочь, осваивала город как родственное пространство. Я не волновалась. Но это было, как я понимаю теперь, давно и неправда. А всего-то прошло двадцать-тридцать лет. Нынче детей принято всюду возить на автомобилях или за руку доводить до самых дверей – каких бы то ни было. И это правильно!

А жизнь взрослых? Она незаметно, исподволь давно взята в рамки страха. Открываем сумки по первому требованию милиции в метро, во Дворце Республики ни одно мероприятие не проходит без того, чтобы вся публика не прошла через металлодетекторные ворота. Да и в Большом театре – театре! – охрана, и ворота тоже стоят в холле устрашающими рогами, ужасно портят внешний вид, но все смирились. А когда в аэропорту вас раздевают до носков, вам не противно? Противно, но жизнь дороже. Теперь все массовое навсегда потенциально опасно. Мы теперь, пожалуй, каждый день, как на войне.

И все больше общественных средств мы будем тратить на свою охрану. А больные – на то они и больные – их действия непредсказуемы. Ну не изымать же из продажи ножницы, шила, молотки и другие инструменты. Вот вам и третья мировая. И чужих не надо – свои порешат.

КРОПКІ НАД "І"




## Праграма Кастуся Каліноўскага: правалілася ці спрацавала ў інтарэсах Беларусі?

Праграма Кастуся Каліноўскага, якая давала магчымасць вучыцца ў Польшчы маладым беларусам, што трапілі пад рэпрэсіі, завершана. З гэтага года пачала дзейнічаць новая – праграма стажыровак для грамадзян Беларусі з магістарскай ступенню ў галіне гуманітарных, сацыяльных навук і права.

Але, як высветлілася, за дзесяць гадоў існавання Праграмы Каліноўскага з 900 беларускіх студэнтаў, якія змаглі паехаць вучыцца ў польскія ВНУ, дыпломы атрымалі толькі 300. Чаму? Ці значыць гэта, што праект праваліўся?

Пра лёс стыпендыятаў Праграмы Каліноўскага, пра яе ролю ў жыцці беларускага грамадства мы паразмаўлялі з **Інай КУЛЕЙ** – старшынёй камітэта абароны рэпрэсаваных "Салідарнасць" і, па сутнасці, куратарам Праграмы Каліноўскага з беларускага боку.

**– Інна Феліксаўна, нядаўна дырэктар Праграмы Каліноўскага з польскага боку Ян Маліцкі агучыў проста сенсацыйныя дадзеныя. Аказваецца, два з трох стыпендыятаў праграмы былі адлічаны…**

– Трэба разумець, што Праграма Каліноўскага – гэта быў шанец для рэпрэсаванай моладзі працягнуць адукацыю, але не гарантыя атрымання дыплома. Скарыстацца гэтым шанцам у поўнай меры і з усёй адказнасцю мог толькі сам стыпендыят. Нават маючы вялікае жаданне вучыцца, не кожны можа адаптавацца да новых умоў, вытрымаць розніцу менталітэтаў, настальгію па дому. Ехалі ж на вучобу зусім маладыя людзі, зачастую ва ўзросце да 20 гадоў.

Потым не трэба забывацца на тое, што еўрапейская Балонская сістэма вышэйшай адукацыі працуе інакш, чым беларуская. Там за студэнтам ніхто бегаць не будзе, ён цалкам нясе адказнасць за свае ўчынкі, і гэта толькі яго жаданне – вучыцца ці не вучыцца. У польскіх ВНУ вельмі значны адсеў студэнтаў, 20–25 працэнтаў адлічаных у год – гэта лічыцца нармальнай лічбай. Але, калі чалавек адлічаны, гэта не значыць, што ён згубіў шанец давучыцца. Можна аднавіцца. І некаторыя нашы хлопцы і дзяўчаты аднаўляліся.

**– І заставаліся стыпендыятамі праграмы?**

– Канечне, чалавека могуць аднавіць у стыпендыяльнай праграме, толькі ён павінен прадаставіць даведку з універсітэта, што пераздаў экзамены і адноўлены на вучобе. Былі выпадкі, калі маладзёны, адпрацаваўшы год-два, заканчвалі ВНУ завочна. Я хачу сказаць: тое, што яны не атрымалі дыплом у рамках самой праграмы, не значыць, што яны перасталі вучыцца.

**– А вы адсочвалі лёс стыпендыятаў? Ці шмат хто з іх вярнуўся ў Беларусь? Гучала нямала крытыкі ў адрас праграмы. Напрыклад, гаварылі, што праект, які задумваўся як добры і патрэбны, стаў пралазам для тых, хто жадае з'ехаць з Беларусі…**

– Праграма Каліноўскага – гэта праграма канкрэтнай дапамогі людзям, якія апынуліся ў экстрэмальнай сітуацыі. Але кожны сам робіць свой выбар. Былі і тыя, хто не паехаў вучыцца. Ёсць тыя, хто закончыў ВНУ і прыняў рашэнне застацца працаваць за мяжой. Свет глабальны, і, калі малады чалавек хоча атрымаць добрую адукацыю і знайсці ёй прымяненне не на радзіме, гэта яго права, гэта яго жыццё. Галоўнае, каб ён думаў пра Беларусь, памятаў, што ён беларус, і тады ён будзе імкнуцца штосьці зрабіць для сваёй краіны.

Каля 60 працэнтаў нашых падапечных вяртаюцца ў Беларусь. І зараз мы якраз пачалі новую праграму, якая называецца "Тваё заўтра". Мы хочам прыцягнуць увагу бізнесу, грамадскай супольнасці, дзяржаўных структур да таго, што ёсць шмат цудоўных маладых людзей, якія вучыліся за мяжой, стажыраваліся за мяжой, маюць вялізны патэнцыял, які можна і трэба выкарыстоўваць.

**– Чаму існуе меркаванне, што выпускніку Праграмы Каліноўскага складана працаўладкавацца ў Беларусі? У дыпломе ж не пішуць, што чалавек вучыўся па Праграме Каліноўскага? Няўжо за іх лёсам так пільна сочаць на радзіме?**

– Так, менавіта пільна сочаць. Першыя пяць гадоў Праграма Каліноўскага ўспрымалася беларускай уладай вельмі балюча, нервова, таму што яна не толькі падкрэслівала той факт, што ў Беларусі адбываюцца рэпрэсіі, але і разбурала страх у грамадстве. Праграма была нацэлена на тое, каб моладзь не баялася выказваць сваё меркаванне, адстойваць сваю пазіцыю, каб малады чалавек ведаў: калі яго адлічаць з універсітэта за ягоныя погляды, за іншадумства, ён зможа атрымаць вышэйшую адукацыю за мяжой. На Праграму Каліноўскага нацкавалі Беларускае тэлебачанне. Тыя, хто праходзіў па спісе стыпендыятаў праграмы, былі персонамі нон грата для працаўладкавання ў Беларусі. Але я думаю, што часы мяняюцца. Сёння і людзі з акружэння Лукашэнкі, і міністр замежных спраў Уладзімір Макей усё часцей кажуць пра тое, што краіне патрэбны маладыя кадры з добрай еўрапейскай адукацыяй. Прыклады такіх краін, як Грузія, Эстонія, паказваюць, наколькі важную ролю адыгрываюць маладыя рэфарматары і ўпраўленцы, асабліва тыя, хто разумее, што такое сусветная эканоміка сёння.

Да слова, мы знялі фільм "Універсітэт Каліноўскага" (яго можна паглядзець на "Ютубе"), у якім распавядаецца шмат гісторый нашых выпускнікоў. І тых, хто вярнуўся ў Беларусь, і тых, хто застаўся працаваць за мяжой.

**– Вы кажаце, што беларуская ўлада зацікаўлена ў маладых рэфарматарах. Але, анансуючы праграму стажыровак, Ян Маліцкі заявіў, што яе мэта – рыхтаваць "будучыя кадры высокай якасці для новага ўрада Беларусі пры змене ўлады". Ці варта ў такім выпадку чакаць зацікаўленасці з боку беларускай улады?**

– Гэтае пытанне трэба задаць прадстаўнікам улады, а не мне. Але я думаю, што і ў сённяшняй уладзе працуюць не такія ўжо непісьменныя людзі, яны разумеюць, што стан стагнацыі немагчыма трымаць доўга, што гэта шкодна і небяспечна і для краіны, і для іх саміх, і, самае галоўнае, для нашай незалежнасці.

На мой погляд, трансфармацыя Праграмы Каліноўскага – гэта вельмі добра для сучаснай Беларусі, таму што яна дае магчымасць для тых, хто ўжо вызначыўся ў сваёй прафесіі і ведае, чаго хоча ў будучыні, павысіць сваю кваліфікацыю і атрымаць новыя веды, якія адпавядаюць сусветнаму ўзроўню.

**– А якія ўмовы адбору па гэтай праграме?**

– На жаль, ніякай падрабязнай інфармацыі я даць не магу. Рада праваабаронных арганізацый не мае дачынення да гэтай праграмы, мы не ўдзельнічаем у адборы кандыдатаў. Гэта цалкам праграма Інстытута Усходняй Еўропы, яе кіраўнік – Ян Маліцкі. Магу толькі сказаць, што гэта праграма для людзей, якія маюць вышэйшую адукацыю, а не адлічаных студэнтаў. Не мае значэння, падпаў пад рэпрэсіі кандыдат ці не. Любы жадаючы можа даведацца пра гэтую праграму на сайце Амбасады Польшчы ў Беларусі ці на сайце Інстытута Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта uw.edu.pl. Першы набор у гэтым годзе ўжо адбыўся.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

АФІША

## Купалаўскі тэатр вяртаецца да традыцыі дзіцячых спектакляў




На Вялікай сцэне тэатра рэжысёр Сяргей Кавальчык рыхтуе прэм'еру – баль-маскарад "Крыштальны туфлік" паводле твораў Шарля Перо, Яўгена Шварца і Тамары Габэ. Першы паказ спектакля адбудзецца 12 лістапада ў 11.30.

ЛІЧБА ДНЯ

## 48.463

*Такая колькасць дзяржслужачых без уліку сілавікоў у Беларусі*

Гэтыя дадзеныя на 1 ліпеня мінулага года ўтрымліваюцца ў штогадовым зборніку «Праца і занятасць» Нацыянальнага статыстычнага камітэта. Паведамляецца, што колькасць дзяржаўных служачых у Беларусі за 2011–2015 гады скарацілася амаль на 14%.

Пры гэтым адзначаецца, што апублікаваныя звесткі аб дзяржслужачых «не ўтрымліваюць інфармацыю» аб працаўніках міністэрстваў абароны, унутраных спраў, КДБ і іншых сілавых ведамстваў.

ДАРЭЧЫ

## Жанчын больш

У дадзеных Нацстата сцвярджаецца, што на дзяржслужбе ў мінулым годзе знаходзілася амаль 34.000 жанчын і 14.500 мужчын. Пры гэтым кіруючыя пасады займалі 2933 мужчыны і 3544 жанчыны. Таксама галоўнымі спецыялістамі ў дзяржорганах былі пераважна прадстаўніцы жаночага полу (13.837), мужчыны такую пасаду займалі радзей (3639).

ПРА ШТО ГАВОРАЦЬ...

## Няма згоды Масквы…

Стала вядома, што ў 2017 годзе Мінск наведаюць больш за 40 кардыналаў і біскупаў з усіх краін Еўропы і з Ватыкана: беларуская сталіца стане месцам правядзення Рады канферэнцый каталіцкіх біскупаў Еўропы. У такім фармаце каталіцкія святары збіраюцца рэгулярна, але рашэнне правесці сустрэчу ў Беларусі – сведчанне таго, што наша краіна ўсё больш увасабляецца як паўнавартасная частка каталіцкай Еўропы.

Эксперты, між іншым, даўно адзначаюць пашырэнне кантактаў на самым высокім узроўні паміж Ватыканам і афіцыйным Мінскам. Аляксандр Лукашэнка двойчы сустракаўся з Папам Рымскім у Ватыкане. У 2015 г. Беларусь наведаў Дзяржаўны сакратар Яго Святасці Папы Францішка кардынал П'етра Паралін. Сёлета ва ўрачыстасцях, прысвечаных 25-годдзю адраджэння структур Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, браў удзел пасланнік Папы арцыбіскуп Вены кардынал Крыстаф Шонбарн. Але ўсіх, зразумела, цікавіць пытанне, калі адбудзецца візіт самога Папы Рымскага ў Беларусь. Нядаўна, напрыклад, Папа Францішак наведаў Азербайджан, дзе жыве толькі 200 каталікаў. А ў Беларусі іх каля 15 працэнтаў насельніцтва.

– Сам Ватыкан ставіць дзве ўмовы прыезду ў Беларусь Папы Рымскага, – тлумачыць рэдактар хрысціянска-інфармацыйнага партала "Крыніца" **Максім Гацак**. – Гэта афіцыйнае запрашэнне ўлад і афіцыйная згода канфесіі, якая прадстаўляе большасць насельніцтва краіны. У Беларусі сёння дамінуе духоўная ўлада праваслаўя. І калі свецкія ўлады больш-менш афіцыйна, хаця б на ўзроўні размовы, запрашаюць главу Ватыкана наведаць Беларусь, то афіцыйнай згоды з боку праваслаўнай царквы няма. Прычым, як заявіў прэс-сакратар БПЦ айцец Сяргей Лепін, Беларуская праваслаўная царква сама па сабе не супраць візіту Папы Рымскага, але дзейнічае ў рэчышчы палітыкі Рускай праваслаўнай царквы, часткай якой з'яўляецца.

Ватыкан у сваю чаргу не жадае псаваць стасункі з Рускай праваслаўнай царквой, Касцёл разумее, што інтэнсіўны рух можа нашкодзіць самой каталіцкай царкве. На маю думку, візіт Папы адбудзецца не ў хуткім часе, бо няма падстаў спадзявацца, што Масква на гэта дасць згоду. Лукашэнку, зразумела, хацелася б, каб Папа Рымскі наведаў Беларусь, для яго гэта быў бы моцны піяр-ход як унутры краіны, так і для Захаду, але Аляксандр Рыгоравіч не можа ўплываць на рашэнні Масквы і Рускай праваслаўнай царквы, для якой прасоўванне Каталіцкай царквы з Захаду на Усход ўспрымаецца вельмі рэўнасна, як замах на яе прыстанішча.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЧУЛІ?

## МАЗы ў лізінг

У мінулым нумары "Народнай Волі" паведамлялася, што Мінскі аўтамабільны завод узначаліў антырэйтынг беларускіх прадпрыемстваў: за першае паўгоддзе спрацаваў з чыстай стратай 596 млрд недэнамінаваных рублёў (гэта прыблізна 30 млн долараў). А днямі ўрад знайшоў спосаб, як дапамагчы прадпрыемству.

Савет міністраў парэкамендаваў аблвыканкамам забяспечыць набыццё ў 2016–2017 гадах 386 аўтобусаў МАЗ-241 у ААТ «Прамагралізінг». Адпаведнае рашэнне замацавана пастановай урада №181. Праўда, сцвярджаецца, што дадзеная мера не ратавальная, дакумент прыняты «ў мэтах развіцця транспартнага абслугоўвання насельніцтва на тэрыторыі раёнаў і гарадоў абласнога падпарадкавання, уключаючы тэрыторыі аграгарадкоў». МАЗ-241 – аўтобус з нізкай падлогай, яго выпуск пачаўся ў 2010 годзе. МАЗ-241 актыўна выкарыстоўваецца ў рамках праграмы «Школьны аўтобус».

ЖАХ!

## Кошт жыцця 1500 рублёў?

*У Петрыкаўскім раёне забілі сякерай паштальёнку, якая развозіла пенсіі.*

14 кастрычніка ў канцы працоўнага дня яна не вярнулася ў Капаткевіцкае аддзяленне сувязі, таму яго кіраўніцтва звярнулася ў міліцыю. На момант знікнення ў жанчыны пры сабе было каля 1500 рублёў для выдачы пенсій, пакет з газетамі і лістамі, торба з асабістымі рэчамі і ровар.

Афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці **Марыя Крываногава** распавяла, што пад падазрэнне трапіла 42-гадовая непрацуючая жыхарка Капаткевічаў. Праваахоўнікі агледзелі гаспадарчую пабудову, што ёй належыць, і знайшлі ровар зніклай 27-гадовай жанчыны. Яе цела з бачнымі прыкметамі гвалтоўнай смерці знаходзілася пад падлогай у доме. Былі знойдзены грошы паштальёнкі, яе асабістыя рэчы, а таксама сякера, якой, як мяркуецца, была забіта жанчына.

Па факце забойства распачалі крымінальную справу. Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрымалі згаданую гаспадыню дома.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Дырэктару гімназіі свеціць да сямі гадоў зняволення

*Крымінальную справу дырэктара сталічнай гімназіі №4 Юрыя Бандарэнкі на мінулым тыдні накіравалі ў суд Фрунзенскага раёна. Яго абвінавачваюць у атрыманні хабару ў 500 долараў. Санкцыі па гэтым артыкуле прадугледжваюць да 7 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.*

Пра падрабязнасці крымінальнага інцыдэнту ў пракуратуры Мінска паведамляюць коратка: 18 жніўня, знаходзячыся ў сваім службовым кабінеце, за прыняцце рашэння аб залічэнні дзіцяці ў пяты клас гімназіі Бандарэнка ўзяў для сябе асабіста ад яго бацькі 500 долараў ЗША.

Юрый Бандарэнка ўзначальваў беларускамоўную гімназію №4 з 1997 года.

**Паліна ПЛАТОНАВА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 КАСТРЫЧНІКА 2016 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# На шопінг у Смаленск



*Карэспандэнт «Народнай Волі» з'ездзіў у Расію і паглядзеў, на чым эканомяць і што купляюць у суседзяў беларусы.*

Камфартабельны аўтобус з Віцебска ў Смаленск адпраўляецца кожную суботу. Аб'явы аб паездках расклеены на прыпынках і аўтавакзале. Браніраваць месцы трэба загадзя, бо жадаючых адправіцца за пакупкамі дастаткова. Кошт квітка складае 12 рублёў.

З Віцебска выязджаем у 8 раніцы (ужо ў 7.20 на платформе збіраюцца людзі з пустымі каляскамі і вялікімі сумкамі). Аўтобус робіць адзін прыпынак на Маскоўскім праспекце, і свабодных месцаў у салоне ўжо няма. У асноўным едуць за пакупкамі дробныя прадпрымальнікі, якія потым перапрадаюць тавар у Беларусі. Адзінкі адпраўляюцца проста паглядзець горад і прыкупіць нешта па дробязі.

Каля 9 гадзін аўтобус прыбывае на памежны пункт «Рудня», дзе ў пасажыраў правяраюць пашпарты. Працэдура займае некалькі хвілін – і мы ўжо на расійскім баку. Да Смаленска з Віцебска 135 кіламетраў, і ў 10.00 аўтобус прыязджае на першую кропку. Для наведвання запланаваны Калгасны рынак, гандлёвыя цэнтры «Юнона» і «Галактика». Прытрымлівацца маршруту неабавязкова, галоўнае – вярнуцца да 17.00 для ад'езду.

На наведванне кожнага гандлёвага аб'екта ў сярэднім адводзіцца па 2 гадзіны. Паводле слоў дасведчаных пакупнікоў, беларусы вязуць з Расіі бытавую тэхніку і прадукты.

На «колхозке» шмат машын з беларускімі нумарамі: віцебскі, магілёўскі і мінскі рэгіёны. У мікрааўтобусы загружаюць печыва, каву, пральны парашок, алей і іншыя прадукты. Працуюць беларусы па прынцыпе: прыехаў, купіў, паехаў. Распавядаць аб выгадзе закупак у Смаленску асабліва ніхто не хоча, а вось расійскія прадаўцы ахвотна ідуць на дыялог.

– *У суботу тут самы пік гандлю ідзе,* – кажа «Народнай Волі» прадавец Вольга Архіпава. – *Беларусы ўжо сталі сваімі, у кожнага прадаўца ёсць пастаянныя пакупнікі. Да мяне едуць у асноўным з Віцебска, Оршы, Лёзна, прыязджаюць і мінчане. Парадокс: некаторыя беларускія прадукты вы ў Смаленску купіце танней, чым дома.*

Хаджу па рынку і параўноўваю кошты: банка рагачоўскай згушчонкі каштуе 50 расійскіх рублёў, у Беларусі цана прыблізна такая ж (1,5 рубля). Пральны парашок (4 кг) – 290 расійскіх рублёў (8,85 беларускага), 5 літраў алею можна купіць за 250 рублёў (7,60 беларускімі).

Паводле слоў Вольгі са Смаленска, пры аптовай куплі цана зніжаецца. Напрыклад, згушчонка будзе каштаваць 40–45 рублёў за банку. Жанчына не раіць набываць на рынку вопратку, і ўгаворвае купіць каробку шакаладнага печыва (2 кг) за 300 расійскіх (9 беларускіх) рублёў.

Нягледзячы на шматлікія зніжкі, адзенне ў крамах Смаленска не танней, чым у Беларусі. Цэны на жаночыя курткі і паліто пачынаюцца ад 5 тысяч расійскіх рублёў, на мужчынскія джынсы – ад 1,5 тысячы. Дарэчы, для беларусаў у некаторых гандлёвых цэнтрах горада прадугледжаны спецыяльныя акцыі: па прад'яўленні пашпарта дзейнічаюць зніжкі на ювелірныя вырабы, спартыўныя тавары, камп'ютары.

Паводле падлікаў карэспандэнта «Народнай Волі», кошт мабільных тэлефонаў, фотаапаратаў, халадзільнікаў у Расіі ніжэй. Напрыклад, iPhone 5s у гандлёвым цэнтры «Юнона» абыдзецца амаль у 21 тысячу расійскіх (640 беларускіх) рублёў, у нас – каля 900. У крамах бытавой тэхнікі Смаленска можна сэканоміць за кошт утылізацыі: халадзільнік маркі LG каштуе 30 тысяч, а пры здачы старога зніжка – 5 тысяч расійскіх рублёў.

Бліжэй да вечара ўдзельнікі шоп-тура збіраюцца каля аўтобуса. Першымі спяшаюцца прадпрымальнікі, каб загрузіць тавар у багажны адсек. Каму не застаецца месца, укладваюць каробкі прама ў салоне, чым раздражняюць кіроўцу.

– *Ты паглядзі, колькі ўсяго вязуць!* – эмацыянальна кажа Валерый з Віцебскай вобласці. – *Ім галоўнае – паспець багажнік сваім барахлом забіць...*

**– Людзей заўсёды так шмат?**

– *Так, бітком кожную суботу. За прадуктамі толькі і ездзяць сюды. Танней, таму і народу столькі.*

Першае, на што звяртаеш увагу, знаходзячыся ў Смаленску, гэта рэклама беларускай прадукцыі: ад аўтазаправак «Белнафтахіма» да касметыкі і мёду. Нават піва ў мясцовы бар прывозяць з Полацка тры разы на тыдзень, кажуць, што якасць беларускага прадукту нашмат вышэй, чым расійскага.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

Фота аўтара.

ПАСЛЯ ТРАГЕДЫІ

# «Дзе працуе тэхніка з усялякімі «веялкамі» і «сеялкамі», дзяцей наогул быць не павінна»

Хто адкажа за смерць 13-гадовай Вікі Папчэні, якая трагічна загінула падчас уборкі бульбы пад коламі грузавіка ў Маладзечанскім раёне?

Цяпер ідзе следства, крымінальная справа ўзбуджана ў дачыненні да вадзіцеля грузавіка – 23-гадовага мужчыны, які, як распавядалі відавочцы, аб'ектыўна не мог бачыць дзяўчынку, здзяйсняючы манеўр. Усе кропкі над «і» павінен расставіць суд. А пакуль некаторыя тлумачэнні мясцовай прэсе даў **Дзяніс Томашаў**, начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы.

– *Заключэнне працоўнага дагавора, згодна з заканадаўствам, дапускаецца толькі з асобамі, якія дасягнулі 16-гадовага ўзросту,* – патлумачыў Тошамаў. – *Калі дзіцяці 14 гадоў, то з ім можа быць заключаны працоўны дагавор толькі з пісьмовага дазволу бацькоў. І то такі дагавор можа быць заключаны толькі на выкананне лёгкай работы, дзе няма фактараў, якія мы адносім да небяспечных. Патлумачу: там, дзе выкарыстоўваюцца рэчывы, якія могуць нашкодзіць здароўю дзіцяці, або там, дзе працуе тэхніка з усялякімі "веялкамі" і "сеялкамі", дзяцей увогуле быць не павінна. Тое ж датычыцца і ўборкі бульбы.*

*На полі, дзе працуе тэхніка, дзіцяці знаходзіцца забаронена.*

Акрамя таго, паводле слоў чыноўніка, перанос і перасоўванне непаўналетнімі цяжару ўручную рэгламентаваны міжгаліновымі правіламі па ахове працы пры правядзенні пагрузачна-разгрузачных работ, зацверджаных пастановай Міністэрства працы і сацыяльнай абароны РБ №173 ад 12 снежня 2005 года.

Згодна з гэтым заканадаўчым дакументам, дзіцяці, якому 14 год, дазволена падымаць і пераносіць цяжар, вага якога не перавышае трох кілаграмаў.

– *Парушэнні, якія дапусцілі тыя, хто адправіў 13-гадовую школьніцу на ўборку бульбы, відавочныя. Адказны за гэта, па-першае, павінны быў пераканацца ў тым, што дзіцяці споўнілася 14 гадоў, што ў яго ёсць медыцынская даведка, якая дазваляе выконваць фізічную працу.*

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

СЛЫШАЛИ?

# Анатолий Таран – чемпион мира по игре на баяне



Оказывается, с 1951 года в мире проводится международный конкурс по игре на баяне. Это серьезное состязание, которое оценивает жюри, состоящее из педагогов и профессиональных музыкантов из разных стран мира. 66-й Международный конкурс «Трофей мира-2016» проходил в португальском городе Портимау.

В разные годы победителями конкурса становились известные музыканты, и вот впервые лауреатом первой степени стал баянист из города Слуцка Минской области Анатолий Таран. Он завоевал премию в категории «Сеньор Варьете». В его номинации за победу боролись 19 музыкантов из 9 стран.

СКАНДАЛ

# Он нагло срезает углы бытия



Художнику Руслану Вашкевичу отказали в выставочном пространстве. Как всегда, внезапно и безоговорочно – за два дня до запланированного вернисажа. Как всегда, под глубокомысленным предлогом – типа рукомойники засорились.

Брестский музей «Спасенные художественные ценности» захлопнул свои двери перед человеком, который выставлялся в нашем Национальном художественном музее, на Венецианском биеннале современного искусства, чьи работы, в конце концов, хранятся в коллекциях главного художественного музея и Музея современного искусства страны.

Ну, не он первый, не он последний. Творчество нередко вступает в конфликт с какой бы то ни было администрацией, которая берет на себя функции контролера общественной морали сверху донизу. Тем более творчество Вашкевича, который как кредо провозглашает: «Я двумя руками за наезды на мораль толпы со стороны художника. Это стало моим принципом: если есть чувство страха, если есть привкус крови во рту, этим интересно и нужно заниматься».

Но администрация Брестского музея «Спасенные художественные ценности» увидела в работах Вашкевича опасность для своей девственной экспозиции и в последний момент сочла, что технические возможности его учреждения не позволяют разместить арт-объекты известного минского художника-концептуалиста. Мол, здесь хранится антиквариат, иконы, ювелирные изделия Фаберже – и выставить рядом эстетический взрыв, картины, где всё насмешка, карикатура, сарказм?.. А вдруг это вообще порнография?! Лучше поберечься…

Не на того напали… Выставка Вашкевича все равно состоялась – вчера она открылась в брестском торговом доме «Миллионный» в павильоне №47. Да, среди китайских и турецких челноков. И тоже попала в яблочко.

– Брестский музей конфискованных предметов искусства и антиквариата, про который, может, и не все знают, единственный в своем роде: там есть хороший Айвазовский, шедевральный Врубель, есть Надя Леже и Юлий Клевер. Я посетил его неоднократно, потому что год готовил свой проект «Конь в пальто», – рассказал «Народной Воле» Руслан Вашкевич. – Мне интересна тема границы: перехода границы в искусстве, а также выход личности за границы собственной свободы – в том числе административной, институциональной. Много раз мы согласовывали каждый арт-объект – по фотографиям, по текстам. В общем, договорились. И вот в последний момент директор дала отбой! Но, я думаю, это воля местных идеологов из управления культуры. Вряд ли это собственное решение директора, она милая женщина, с ней мы хорошо ладили. Но в конце концов она перестала меня слышать. Жаль, что музей такой консервативный, провинциальный, что он не хочет бороться за зрителя. Кстати, моя выставка была бы в тех стенах сверхактуальна – сейчас как раз время слома границ, время перемещения народов и их ценностей.

Но музей дал задний ход. А художник Вашкевич выставку в Бресте тем не менее не отменил. И посетить ее теперь стало еще больше поводов.

**Виктория ДРОЗД.**

ФУТБОЛ

# Мёд і дзёгаць БАТЭ

*Барысаўскі клуб у 13-ы раз стаў чэмпіёнам Беларусі па футболе, пры гэтым 11-ы раз запар.*



Перамога над мікашэвіцкім "Гранітам" (1:0) гарантавала барысаўчанам чарговы залаты тытул за пяць тураў да фінішу першынства. Зрэшты, некаторыя ігракі паставіліся да такога поспеху даволі самакрытычна.

*"Камандзе сезон не ўдаўся,* – сказаў пасля гульні футбаліст БАТЭ **Аляксандр Глеб**. – *Кожны год клуб абавязаны станавіцца чэмпіёнам. Гэта нават не абмяркоўваецца. Але асноўная задача – удзел у Лізе чэмпіёнаў, на яе арыентавана ўся структура БАТЭ. А мы выступілі зусім дрэнна, не патрапілі нават у Лігу Еўропы, не прывезлі ў Беларусь грандаў еўрапейскага футбола. Трэба будзе дасягнуць гэтай мэты праз год".*

Астатнія матчы 25-га тура: "Нафтан" (Наваполацк) – "Крумкачы" (Мінск) – 1:0, "Славія" (Мазыр) – "Іслач" (Мінскі раён) – 2:1, "Дынама" (Мінск) – "Дынама" (Брэст) – 2:1, "Шахцёр" (Салігорск) – "Мінск" – 0:0, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Нёман" (Гродна) – 1:0, "Слуцк" – "Віцебск" – 2:1, "Гарадзея" – "Белшына" (Бабруйск) – 2:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 25 | 20 | 3 | 2 | 63–21 | 63 |
| Шахцёр | 25 | 13 | 7 | 5 | 35–17 | 46 |
| Дынама (Мн) | 25 | 12 | 9 | 4 | 39–24 | 45 |
| Тарпеда-БелАЗ | 25 | 11 | 7 | 7 | 37–25 | 40 |
| Мінск | 25 | 11 | 7 | 7 | 36–24 | 40 |
| Гарадзея | 25 | 8 | 11 | 6 | 30–25 | 35 |
| Іслач | 25 | 9 | 7 | 9 | 29–34 | 34 |
| Дынама (Бр) | 25 | 9 | 5 | 11 | 35–39 | 32 |
| Віцебск | 25 | 8 | 6 | 11 | 21–21 | 30 |
| Славія | 25 | 8 | 6 | 11 | 28–39 | 30 |
| Крумкачы | 25 | 8 | 5 | 12 | 21–32 | 29 |
| Слуцк | 25 | 6 | 9 | 10 | 22–31 | 27 |
| Нёман | 25 | 6 | 7 | 12 | 16–31 | 25 |
| Граніт | 25 | 5 | 9 | 11 | 18–42 | 24 |
| Белшына | 25 | 5 | 7 | 13 | 30–38 | 22 |
| Нафтан | 25 | 5 | 7 | 13 | 21–38 | 22 |

ПЕРЕД СОБЫТИЕМ

# Из Нью-Йоркской гавани…

В Минск приглашен вокальный педагог Эндрю Бёрн с Бродвея (Нью-Йорк, США) – известный композитор, поэт, исполнитель, дирижер. На протяжении двух недель американский коуч будет готовить премьеру музыкальной драмы Next to normal («Недалеко от нормы») с белорусскими солистами из минского частного театра «Территория мюзикла».

При поддержке Посольства США в Республике Беларусь впервые в русскоязычном пространстве мюзикл «Недалеко от нормы» будет представлен именно в Беларуси. Либретто переведено на русский язык специально для театра «Территория мюзикла». Именно «Территории» предоставлено право постановки и проката этого спектакля от одной из ведущих мировых компаний в области лицензирования мюзиклов – Music Theatre International (MTI).

На родине, в США, этот спектакль выдержал более 700 представлений на Бродвее, в главном театральном квартале Нью-Йорка, получил 11 номинаций и 3 высшие американские премии в области музыкального театра Tony Award, а также Пулитцеровскую премию в номинации «Драма» – «За расширение возможностей и тематики самого жанра».

Для нашей публики это будет неожиданностью: сюжет мюзикла, сугубо, как мы привыкли считать, развлекательного жанра, – драматический, остро социальный. Это глубокий и сопереживающий взгляд на то, каким размытым и сложным может оказаться само понятие «норма». Постановочная группа спектакля – режиссер Анастасия Гриненко, хореограф Дмитрий Якубович, художники Андрей Меренков и Юлия Бабаева.



Подготовка к белорусской премьере Next to normal ведется уже около двух лет и сейчас выходит на финальную стадию.

**Анжелика КУЗНЕЦОВА.**

ШОК!

# Лося расстреляли из Калашникова

Шесть попаданий из пистолета и семь из автомата Калашникова. Столько выстрелов понадобилось милиционерам, чтобы обезвредить лося.

Инцидент произошел в Гомеле. На территорию гаражно-строительного потребительского кооператива №25 забрел лось. Животное повредило шесть автомобилей и причинило телесные повреждения 30-летнему гомельчанину. Председатель ГСПК вызвал милицию.

Прибывший первым на место происшествия участковый инспектор милиции *«во избежание причинения вреда жизни и здоровью граждан»* использовал табельное оружие. Однако это не остановило животное.

К этому времени в гаражи приехала и следственно-оперативная группа. Старший оперуполномоченный БЭП Советского ОВД решил использовать автомат Калашникова. Милиционер произвел семь прицельных выстрелов, и только после этого животное было обезврежено.

Туша лося изъята сотрудниками КУП «Спецкоммунтранс», назначено исследование. Предполагается, что лось был бешеным, и именно поэтому напал на человека.

НЕСТАНДАРТ

# Сантыметры з таліі сыходзяць хутка!

*Навошта ідуць займацца балетам 40-гадовыя жанчыны? Што даюць урокі харэаграфіі пенсіянерам? І чаму лічыцца, што самы эфектыўны спосаб пахудзення – заняткі ў станка? Пра гэта «Народнай Волі» распавяла кіраўнік прыватнай балетнай школы «32 фуэтэ» **Аляксандра Леў**. Тут займацца балетам можна ў любым узросце.*

«Мы лічым, што калі ёсць жаданне – займацца балетам можа кожны, – *гаворыць Аляксандра*. – Не мае значэння ні камплекцыя, ні ўзрост, ні ўзровень фізічнай падрыхтоўкі. Балет дапамагае авалодаць целам, сыходзіць лішняя вага.

Наша школа адкрылася два гады таму. Прыходзяць і тыя, каму за 50 і нават 65 гадоў, ёсць дзіцячыя групы. Але больш за ўсё балет цікавіць жанчын 30–40 гадоў.

Матывацыя ва ўсіх розная. Для кагосьці гэта мара дзяцінства. Хтосьці хоча завесці сабе вытанчанае хобі. Некаторым надакучыла трэнажорная зала, хочацца паспрабаваць нешта новае, каб быў эфект для фігуры.

Заняткі праходзяць пад класічную музыку ля станка – усё, як у харэаграфічным каледжы. Сантыметры з таліі сыходзяць вельмі хутка! У школе выкладаюць прафесійныя балерыны. Многія з іх не адзін год аддалі сцэне".



### Колькі каштуе?

Можна сказаць, што цэннік на заняткі балетам не моцна адрозніваецца ад кошту наведвання фітнес-цэнтраў.

Разавае наведванне ў балетнай школе будзе каштаваць 15 рублёў, абанемент на 4 урокі – 46.50, безлімітны абанемент на 1 месяц – 185 рублёў.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 КАСТРЫЧНІКА 2016 г.

ИЗ-ПОД ПЕРА

# Смелый предприниматель всегда на мушке






*Смелый, неординарный предприниматель всегда на мушке. Если не киллера, получившего заказ на сведение счетов, то на мушке обывательских кривотолков и зависти, чиновничьих придирок и вымогательств, завышенных ожиданий разного рода приятелей, неразборчивых советчиков и т.д. и т.п.*

*Прекрасно, когда у предпринимателя находятся настоящие помощники и единомышленники.*

*«Я с нетерпением ожидаю выхода каждой новой книги Валерия Сороко, – признался председатель президиума Республиканской конфедерации предпринимательства **Владимир Николаевич Карягин**. – Более 25 лет наблюдаю, как он борется за справедливое восстановление своего честного имени. Наблюдаю и за перипетиями развития его предпринимательской деятельности. Новая книга «Кровь и стоны бизнеса» не просто откровенный рассказ о том, как проблемы предпринимательства отразились на судьбе автора, это, на мой взгляд, реальная хроника нашего времени. Всех героев, которых вывел Валерий Сороко на страницах книги, я знаю лично. Поражает не только достоверность изложенных фактов, но и прежде всего острота переживаний и сохраненное неравнодушие к проблемам, возникающих на пути развития бизнеса.*

*Книгу «Кровь и стоны бизнеса» я рекомендую прочесть каждому, кто имеет свой бизнес. Пути развития разные, но трудности-то одни.*

*Надеюсь, книга будет интересна и тем, кто только собирается открыть свое дело. Она будет поучительна и для тех представителей власти, которые своими действиями, а зачастую и бездействием создают препятствия для трудолюбивых, нестандартно мыслящих людей. Иногда этим они ломают судьбы тех, кто решил открыть свое дело. Нужно научиться понимать главное: мы все работаем на процветание Беларуси».*

*Откровенно говоря, этот отзыв одного из руководителей белорусского делового сообщества о новой книге Валерия Сороко под названием **«Кровь и стоны бизнеса»** заинтересовал и нас, журналистов «Народной Воли». В ней рассказывается о том, как автор, вчерашний юрист, от безысходности, невозможности работать по полученной специальности занялся предпринимательством. Вначале это было крестьянское (фермерское) хозяйство, затем торговое предприятие. Со временем и от одного, и от второго пришлось освобождаться. Жизнь того, кто купил торговую фирму у В.Сороко, трагически оборвалась...*

*Автор откровенно и доверительно рассказывает о своем опыте ведения бизнеса, не скрывая при этом и неприглядные моменты, проявлявшиеся при его ведении. Он также обращается к опыту и проблемам современных фермеров, предпринимателей, работающих в различных направлениях. Тем самым он хочет поспособствовать своим коллегам-бизнесменам и представителям власти в поиске новых точек роста бизнеса.*

*Хочется надеяться, что опыт В.Сороко, а также ряда его коллег будет поучительным для тех, кто встанет на дорогу предпринимательства, задумает открыть свое дело. А обычный читатель с подачи автора во многом переосмыслит предназначение и миссию как самого бизнеса, так и тех, кто двигает его вперед. С этой целью «Народная Воля» предоставляет сегодня свои страницы для публикации одной из глав новой книги Валерия Сороко.*

Валерий СОРОКО

# Кровь и стоны бизнеса

### Непрошеные гости

В один из зимних вечеров по обыкновению я находился на работе, решая текущие вопросы. В кабинет то и дело заходили мои работники, докладывая о ситуации на торговых точках, информировали о расчетах с клиентами, предстоящих платежах.

Зашли мои знакомые абхазцы. Того, что постарше, высокого роста, звали Георгий, молодого коренастого – Алан.

Они привезли фрукты, в основном мандарины. Я уже сотрудничал с ними много месяцев, принимая от них товар и, идя навстречу их пожеланиям, платил быстро и исправно, так как им хотелось побыстрее попасть домой. Дорога была трудная, полная различных приключений. С собой приятели-абхазцы всегда брали оружие, с их слов, им в пути приходилось иногда даже отстреливаться, отпугивать недругов и злых людей в лихие девяностые.

– Валентин товар у нас принял, претензий у ваших работников по качеству нет. Хотелось бы получить расчет и побыстрее уехать, – обратился ко мне Георгий.

– Сколько дней вы можете подождать? Сумму ведь вам надо заплатить немалую. Надо ее еще собрать, – стал я уточнять.

– Два дня, не больше. Зима, дорогу может вмиг занести. Пока снега мало, да и по прогнозам еще несколько дней будет без метелей.

– Сложно за такой срок собрать полную сумму расчета. Но мы постараемся. А как в ваших краях – война продолжается? – полюбопытствовал я.

– Как тут сказать... Грузины никак не успокоятся, все лезут и лезут. Никак не поймут, что не хотим мы с ними жить. Разные мы, обычаи у нас разные. Абхазцы очень трудолюбивый народ, уважительно относятся друг к другу. А у них много непорядочных людей. Воруют, обманывают. Хотят, чтобы мы их содержали. Живут по другим понятиям.

Во время диалога ко мне вошли два крепких молодых парня.

– С кем тут можно побазарить? Кто командует торгашами? – поинтересовались они.

Мне послышались недобрые нотки в голосе вошедших без приглашения.

– А в чем дело? Вы видите, что я занят, у меня гости.

– А нам по барабану. Перетолковать надо тет-а-тет, – сверкнув металлическими зубами, зло процедил один из непрошеных гостей.

– Базарить будете в другом месте. А сейчас – покиньте кабинет и ждите, пока я провожу гостей.

Недовольные незнакомцы все же покинули кабинет.

– Какие-то пассажиры стремные. Ведут себя нагло, – заметил абхазец Георгий.

– Вокзал, каких только залетных здесь не увидишь, – констатировал я.

– Может, помощь нужна, брат? Так мы прихватим оружие и вернемся, – не ожидая моего ответа, абхазцы быстро покинули кабинет.

Уже более уверенно, беспардонно снова вошли в кабинет те же двое парней.

– Начальник, мы от Бороды. Хотим знать расклад.

– Какой еще расклад? Вы о чем? – недовольно, с иронией спросил я.

– Ты же баблом занимаешься. Кому платишь? Кто у тебя «крыша»? – наступал крепкий парень.

– А что, ты мне хочешь помочь заработать? Так у меня свободных вакансий нет.

– Что ты мелешь?! Отвечай за базар, тебе конкретные люди задали вопрос, конкретно отвечай!

Меня взорвало:

– Вы с кем разговариваете?! Понятие имеете, к кому зашли? Почему на «ты» обращаетесь? Вы для меня никто и звать вас никак. Пошли вон отсюда! Пусть сам Борода ко мне приезжает, я с ним перетру.

– Ты, несговорчивый, нарываешься на неприятности.

– Я доходчиво вам объяснил, что со мной надо разговаривать на «вы» и другим тоном, – продолжил я вразумлять решительных парней.

Видя мою неуступчивость и отсутствие страха, незваные гости немного поубавили пыл.

– Нам по барабану. Мы хотим знать, чья у вас «крыша». Мы можем взять и под свое крыло. Много не запросим. Что сказать Бороде?

В это время в кабинет вошли абхазцы. У одного в руках был автомат, у другого – пистолет. От неожиданности, видя такую картину, рэкетиры даже подняли руки.

– Извини, начальник. Мы рамсы попутали, – заикаясь, выдавил сквозь металлические зубы тот, кто до этого проявлял больше решительности и наступательности.

На поднятой руке я заметил наколки. «Был на зоне», – мелькнуло в голове.

– На пол. Руки за голову, – как-то само вырвалось у меня. – Документы есть? Проверь их карманы, – то ли попросил, то ли приказал я своему добровольному помощнику Алану.

Тот нагнулся, достал из карманов ретивых парней паспорта и положил мне на стол. Я на всякий случай снял копии этих документов.

– Забудьте ко мне дорогу! Еще раз здесь увижу – будете всю жизнь работать на лекарства. Доходчиво изъясняюсь? – переспросил у вымогателей, прежде чем с ними распрощаться.

– Да, да! Заметано! – перебивая друг друга, подтвердили кореша-рэкетиры. – Надо было сразу сказать. Мы бы и ушли. Нам разборки не нужны. Простите нас, дураков, сунулись за халявой. А тут такие стволы, да еще грузины.

– Поднялись и бегом вон отсюда. И передайте своим браткам, чтобы забыли про мою фирму и ее торговые точки.

– Понятно. Простите нас! Будем обходить, – пятясь, задом покинули мой кабинет непрошеные гости. Я же обратился к далеким и вполне желанным гостям:

– Спасибо вам большое! Напугали вы их крепко. Я бы и сам сумел с ними поговорить, доходчиво вразумить, что не туда попали. Но не так убедительно, как получилось с вашей помощью, – отдал я должное усилиям своих помощников.

– Не за что нас благодарить. Если понадобится, мы всегда готовы за тебя впрячься. Спрячь оружие и принеси коньяка, который мы привезли для Валерия Илларионовича, – дал указания Алану Георгий.

Через несколько минут Алан возвратился, поставил на стол добротно сделанную резную деревянную упаковку, сквозь грани которой просматривалась двухлитровая бутылка коньяка.

– Вот это красота! Такая искусная работа! – искренне восхитился я, помня, как любил работать с деревом мой отец.

– Ты хороший человек. И нам приятно тебе сделать подарок. Это мой родственник так упаковывает коньяк, – объявил довольный Георгий.

– А как мне приятно видеть такую работу и ваше ко мне уважение! Чем мне вас отблагодарить?

– Ничего не надо. Мы же от чистого сердца. Ты нас не подводишь, хорошо и вовремя платишь. Ты наш друг. Потеплеет – приезжай к нам с семьей в гости, встретим по кавказскому обычаю. Шашлык вместе поедим. Будешь очень доволен нашим гостеприимством.

– Спасибо за приглашение! Столько забот, что не знаю, что будет завтра. Таких далеких планов не строю. Но очень вам благодарен. Прикажу, чтобы с вами быстро рассчитались. А есть где вам переночевать?

– Да мы уже сняли номер в гостинице на 6-м этаже прямо на вокзальной площади. Гостиница хорошая, горячая вода есть. Покушать есть. Отдохнем перед дорогой. Планируем до Нового года еще рейс сделать. Примешь товар?

– Да перед самым Новым годом ваши фрукты будут расходиться, как горячие пирожки на вокзале. И цена закупочная будет выше. Такая далекая дорога, столько опасностей по маршруту следования, – посочувствовал я своим надежным партнерам и поинтересовался: – Оправдан ли ваш риск? Может, если подсчитать все расходы, то и нет смысла заниматься этим бизнесом? Не сродни ли ваши действия действиям одного крестьянина. Ему знакомый подсказал, что в дальних краях на базаре теленок стоит всего один рубль. «Эге, – смекнул крестьянин, – у нас-то теленка меньше чем за пять рублей не купишь». Он взял телегу, деньги и отправился в дальние края. И действительно купил там теленка всего за один рубль. Но, пока добирался туда да обратно, потратился на харчи, заплатил за ночлег на постоялых дворах, за проезд по дорогам. В итоге поездка обошлась в двадцать рублей.

– Мы умеем считать, – прямо заявил Георгий. – Жалко за бесценок отдавать заготовителям выращенные самими фрукты. Столько трудов вкладываем, чтобы получить и сохранить урожай. Многие жители Абхазии не имеют возможности да и не хотят рисковать, вот и отдают перекупщикам и заготовителям урожай за копейки. Когда ныряльщику – ловцу жемчуга удается найти на дне моря большую красивую жемчужину, он обычно несет ее скупщику. Скупщик дает ему совсем немного денег. А сам продает эту жемчужину ювелиру в сто раз дороже. Ювелир вставляет жемчужину в оправу или в перстень или, просверлив, нанизывает на золотую нить и получает за нее в тысячу раз больше, чем тот, кто достал ее со дна моря.

Мы с моими партнерами-абхазцами быстро нашли общий язык. Во многом потому, что мне, владельцу фермерского хозяйства, так близки и понятны были их проблемы. Распрощались мы тепло, по-братски.

***

*Книгу Валерия Сороко **«Кровь и стоны бизнеса»** можно приобрести в сети книжных магазинов «Белкнига» и в столичном магазине «Академкнига».*

РЭГІЁН

# «КІМ» прадаў дзіцячы лагер «Чайка»

На тэрыторыі былой базы адпачынку пад Віцебскам пакупнік плануе адкрыць аграсядзібу.

Як раней паведамляла «Народная Воля», прадпрыемства «Класіка індустрыі моды» абвешчана банкрутам летам мінулага года. Каб разлічыцца з работнікамі, прадпрыемства распрадае нерухомасць.

База адпачынку «Чайка» ў 40 кіламетрах ад Віцебска была прададзена за 322 тысячы рублёў.

– *Пакупнік не з'яўляецца рэзідэнтам Рэспублікі Беларусь,* – сказаў «Народнай Волі» антыкрызісны кіраўнік ААТ «КІМ» Павел Заяц. – *Вядома, што на месцы базы будзе створана аграсядзіба па гадоўлі коней. Напэрадзе яшчэ шмат работы па заключэнні дагавораў.*

Атрыманыя грошы пойдуць на пагашэнне запазычанасцяў перад працоўнымі прадпрыемства. На балансе «КІМ» яшчэ знаходзяцца цэхі фабрыкі, інтэрнаты і іншыя аб'екты.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

НАРЭШЦЕ

# Толькі з пандусамі

У Беларусі забароняць будаваць шматкватэрныя дамы без пандусаў. Такая норма замацавана ў пастанове ўрада №816 ад 12 кастрычніка. Норма пачне дзейнічаць праз шэсць месяцаў пасля афіцыйнага апублікавання дакумента. Пастанова не распаўсюджваецца на аб'екты, праектная дакументацыя якіх зацверджана да ўступлення ў сілу пастановы.

Таксама, згодна з пастановай, абавязковым стане кантроль цеплаізаляцыі ў пабудаваным доме.

СУМНА

# 4022 дзіцяці чакаюць бацькоў

Кожны год у Беларусі ўсынаўляюць каля 600 дзяцей, расказала дырэктар Нацыянальнага цэнтра ўсынаўлення Міністэрства адукацыі Наталля Паспелава. Сёлета беларускія сем'і ўжо ўсынавілі 425 дзяцей. Гэта на 9 чалавек больш, чым летась.

Што тычыцца міжнароднага ўсынаўлення, дык са студзеня па верасень 2016 года 19 беларускіх дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, былі перададзены ў італьянскія сем'і.

*«Да канца года гэтая лічба павялічыцца ўдвая»*, – сказала Паспелава.

Таксама дырэктар цэнтра па ўсынаўленні распавяла, што ў электроннай базе інфармацыйнага партала Dadomu.by зараз налічваецца 4022 хлопчыкі і дзяўчынкі, якія маюць патрэбу ў сям'і. Большасць з іх пражываюць у інтэрнатах. Аднак ёсць і дзеці, якія выхоўваюцца прафесійнымі бацькамі ў часовых сем'ях.

ПОКАЗКІ

# Уладзімір СІЎЧЫКАЎ



### Форма і змест

Алесю Камоцкаму ў адным з падарожжаў давялося было спыніцца, каб пераначаваць у маляўнічай вёсцы на Смаленшчыне.

Гаспадыня, якая пагадзілася прытуліць музыкаў-вандроўнікаў, па іхняй просьбе даручыла паказаць гаспадарку сваёй дачцэ.

Дагледжаная, чысценька прыбраная, прыгожая нібыта парцалянавая цацачка, тая петнастоўка моўчкі павяла гасцей да хлевушкоў.

Найбольшае замілаванне ў дзяўчат, Алесевых спадарожніц, выклікалі пухнаценькія трусяняткі. Яны нават узяліся падкідваць вушасцікам траву дый бацвінне, як раптам экскурсавод-петнастоўка падала голас, як аказалася, хрыплаваты і па-старэчаму рыпучы:

– Кхе-кхе! Да под нож на х.. их всех!!!

Як пазначаў у "Рэвізоры" сваёй знакамітай рэмаркай расійскі класік:

*Нямая сцэна.*

### Кампоцік

Былы аднакурснік-філфакавец Васіль Супрун, поўны цёзка знакамітага лінгвіста, прафесара, загадчыка кафедры агульнага і славянскага моваznaўства, расказваў, што адзін час выкладчыкі дый аспіранты з факультэта прыходзілі па раскладзе з рэйдамі-праверкамі ў "сямёрку" – інтэрнат, што на вуліцы Кастрычніцкай.

Селі раз вячэраць студэнты ў пакоі №6, а мацаванае віно, так званае "чарніла", дзеля канспірацыі зліді з бутэлек-"фаўстаў" у чайнік.

А тут заявіўся да іх дзяжурны, спецыяліст-лексіколаг Яўген К.

– Ну дык што, хлопцы, вячэраеце? – мабыць, унюхаўшы пладова-ягаднае, удавана ветліва спытаўся ён. – А што гэта ў вас у чайнічку?

– Кампоцік…

– Нешта засмяжыла, дык наліце і мне шкляначку вашага кампоціку!

Што рабіць – налілі.

Выпіў дзяжурны ў ахвотку дый выгляду не падаў.

– Харошы кампоцік! Наліце-тка яшчэ!

Выжлукціў ён другую, а потым і трэцюю шклянку.

Мабыць, вярнуўся спадар Яўген дахаты вясёлы і з песнямі, мабыць, адмяцеліла яго жонка і сааўтарка ў навуковых даследаваннях і вучэбных дапаможніках па айчынным фальклоры Маргарыта М.

Мабыць, з гэтае прычыны быў спадар Яўген нараніцу не ў гуморы.

Мабыць, таму і залажыў студэнтаў-небаракаў, якія хоць і змушана, але ж частавалі яго, – напісаў у дэканаце дакладную.

### Спрытны на язык

Дасціпнік-лінгвіст Аляксандр Мікалаевіч Б. і ў ягоным пачэсным узросце слова не пазычае.

Да прыкладу, на пытанне: "Як жывяце, як настрой?" вокамгненна адказвае:

– *Настрой* добры, калі *нас трое*: я, яна і бутэлька добрага чырвонага віна!

### Вясёлая кабета

За абрэвіятуру Беларускай акадэміі мастацтваў была прынята БелАМ. Але многія студэнты і выкладчыкі карысталіся карацейшай і больш звыклай вуху – БАМ, што азначала і Байкала-Амурскую магістраль.

На імправізаваным фуршэце пасля прагляду ў дыпломнікаў плакатыст, шрыфтавік і кніжны дызайнер Уладзь В. стаў выбачацца перад лабаранткаю Лізаветай К. за тое, што тры гады таму падшафэ заляцаўся да яе на банкеце-юбілеі кафедры.

– Ды што вы, кіньце, спадар Уладзімір! – нечакана пачуў ён у адказ ад сваёй колішняй сімпатыі. – Гэта я была дурніцаю: дагэтуль шкадую, што адмовіла вам тады!

– Дык, можа, як кажа адзін мой знаёмы выдавец, я быў недастаткова настойлівы?

Замест адказу Лізавета-вясёлая кабета агучыла яму на вуха перайначаную камсамольска-чыгуначную дрындушку з часоў, калі статус тэатральна-мастацкага інстытута падвысілі да Акадэміі:

*Да мяне прыходзь на БАМ,*
*Мо табе чагосьці дам!*

### Хітраван

У Доме друку журналіст-газетчык Міхась Т. меў за звычку ў працоўны час надоўга сыходзіць нібыта ў курылку папрацаваць з аўтарам або паабедаць у кавярню "Чорны бусел", а то і ў "Батлейку", званую ў народзе "Тэлевізарам" з-за сцен-вокнаў, праз якія заўсёднікаў было відно як на тэлеэкране.

Але быў Міхась вельмі абачлівы – заўсёды пакідаў на працоўным стале напаўспісаны аркуш, ручку-самапіску і "дзяжурныя" акуляры, каб калега і сусед па пакоі пры патрэбе мог прыкрыць ад рэдактара ці наведнікаў:

– Ды недзе тут ён, толькі што выйшаў! Вось бачыце, акуляры ляжаць, а без іх ён анікуды!

Ішоў Міхась-мудрагелец у нагу з прагрэсам – з цягам часу дадаў да свайго рэквізіту і састарэлы мабільнік, а фактычна муляж – без SIM-карты і без акумулятарнай батарэі.

### Надламаны

Яшчэ за савецкім часам празаік Іван П. завёў быў каханку, знайшоў з ёю дзіця, аднак ані жаніцца, ані прызнаваць немаўля не хацеў.

Ну дык тая і папомсцілася яму. Заваблла аднаго вечара да сябе дахаты, падпаіла як след дый зацягнула ў ложак, залашчыла, замілавала. Той і распусціў хвост, што паўлін. А ў п'янага, вядома ж, галава не ведае, што язык апаведае. Дый хваліцца – не касіць, рука не забаліць.

Стаў Іван распавядаць, што такі ён таленавіты дый працавіты, што каб жыў на капіталістычным Захадзе, дык, напэўна, быў бы са сваіх раманаў доларавым мільянерам.

А помслівая каханка ўзяла дый запісала тыя словы на магнітафон, а потым і аднесла ў Камітэт дзяржбяспекі разам з пісьмовым даносам пра амаралку.

Выклікалі камітэтчыкі велешаноўнага празаіка на цвярозую размову і сталі дапытвацца, чаму не шануе ён сацыялістычную айчыну і чаго недадаюць яму родная дзяржава з камуністычнай партыяй. Пацікавіліся, няўжо мала яму рэгулярных публікацый у тоўстых часопісах, шчодрых ганарараў за выданні і перавыданні ў мінскіх і маскоўскіх выдавецтвах, бясплатных пуцёвак у прыморскія дамы творчасці і адпачынку, паездак у складзе творчых брыгад не толькі ад Балтыкі да Курылаў, але і ў далёкае замежжа...

Уратавала небараку хіба што заступніцтва калег – ліст старшыні пісьменніцкай суполкі, станоўчая характарыстыка парторга дый хадайніцтва намесніка старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Але так настрашылі выбітнага празаіка, што пасля таго ён нібыта надламіўся, зрабіўся ціхмяны, як вада ў лужыне.

А сябры па пісьменніцкім цэху ўпотайкі бегалі ў кнігарню "Светач" паглядзець здалёк на жорсткую і падступную прадавачку, што калісь была Івану П. за каханку.



Народная Воля http://www.nv-online.info 18 КАСТРЫЧНІКА 2016 г.

ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

# Закуски на скорую руку

Закуски могут не только пригодиться в паузах между салатами и горячим, но и стать настоящим украшением праздничного стола. Однако часто многих пугает перспектива провести несколько часов, сооружая сотни канапе и рулетиков.

Мы предлагаем вам несколько вариантов симпатичных, аппетитных и, главное, простых закусок. Их приготовление не займет много времени, но результат обязательно порадует глаз и побалует ваши вкусовые рецепторы.

## Закуска на чипсах



**Ингредиенты:**
- картофельные чипсы
- 300 г помидоров
- 100 г сыра
- 2 зубчика чеснока
- майонез
- зелень / оливки / маслины

**Приготовление:**

1.Мелко нарезать помидоры и зелень, сыр натереть на мелкой терке.

2.Смешать все и добавить выдавленный через пресс чеснок.

3.Добавить майонез и все перемешать. Полученную массу выложить на чипсы. Закуску лучше делать непосредственно перед подачей на стол, так как чипсы могут размокнуть.

## Яйца, фаршированные семгой

**Ингредиенты:**
- 5 яиц
- 150 г семги / форели
- майонез
- зелень

**Приготовление:**



1. Сваренные вкрутую яйца разрезать вдоль на 2 части. Желтки сразу вынуть и измельчить.

2.Нарезать зелень и смешать ее с желтками. Добавить майонез и все размешать.

3.Теперь можно нафаршировать белки полученной массой и украсить закуску тонко нарезанной семгой и любимой зеленью.

## Дед Мороз из крекеров



**Ингредиенты:**
- соленые крекеры
- салями
- сыр рикотта
- оливки и маслины

**Приготовление:**

1.Положить рикотту в полиэтиленовый пакет с застежкой, плотно застегнуть и ножницами сделать небольшое отверстие в уголке упаковки.

2.Тонкой полоской из сыра, выжатого из пакета, нарисовать бороду и украшение для шапочки.

3.Треугольники из салями – это шапочки, глаза и усики – маслины и оливки.

## Рулетики из ветчины



**Ингредиенты:**
- 300 г ветчины
- 200 г сыра
- 3 яйца вкрутую
- 3 зубчика чеснока
- майонез
- зелень

**Приготовление:**

1.Сварить яйца вкрутую. Желтки отделить от белков. Белки натереть на крупной терке. Желтки натереть на мелкой терке в другую миску.

2Соединить тертый сыр, яичные белки, зелень и чеснок. Добавить майонез и хорошо перемешать начинку.

3.На край ломтика ветчины положить 1 десертную или столовую ложку начинки, посыпать сверху тертым желтком и свернуть рулетиком.

4.Разложить рулетики на блюде, застеленном листьями салата, или положить по одному на тосты.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Пра «ненармальнае» выступленне алімпійцаў

*Аляксандр Лукашэнка раскрытыкаваў выступленне беларускіх атлетаў на Алімпіядзе ў Рыа, назваўшы яго пасрэдным і ненармальным. А вось што з гэтай нагоды думаюць некаторыя спартсмены і спецыялісты…*



**Віктар ШАРШУКОЎ, галоўны трэнер зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы:**

– Калі казаць пра наш від спорту, то лічу, што цяжкаатлеты выступілі добра – на нашым рахунку два медалі. Да таго ж у шасцёрку мацнейшых уваходзіла шмат нашых маладых атлетаў, якія пакажуць сябе на наступных Гульнях.

Таму лічу, што мы адпрацавалі дзяржаўныя грошы па поўнай праграме. І зараз, падчас збору ў Грузіі, упершыню за чатыры гады трацім валюту, а раней увесь час трэніраваліся на базе ў "Стайках". Да слова, на наступную Алімпіяду мы ўзялі абавязацельства заваяваць не два медалі, а як мінімум тры.



**Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ, трохразовы алімпійскі чэмпіён па вольнай барацьбе:**

– Вельмі дрэнна выступіла беларуская зборная на Алімпіядзе! Калі ў барацьбе і цяжкай атлетыцы нам яшчэ пашэнціла, то ў астатніх відах спорту – практычна нулявыя вынікі. Добра, што яшчэ батуцісты парадавалі "золатам", а так наогул была б адна з самых правальных Алімпіяд.

Няма рэзерву, адсутнічаюць добрыя маладыя трэнеры. Вось дзе праблема! Таму трэба ў першую чаргу брацца за дзіцячы спорт.



**Наталля ЦЫЛІНСКАЯ, 8-разовая чэмпіёнка свету па веласпорце, бронзавы прызёр Алімпіяды-2004:**

– Мне цяжка ацэньваць выступленне алімпійцаў, бо я і сама ў мінулым спартсменка дастаткова высокага класа. Я скажу толькі адно: ніводны атлет не едзе на Гульні турыстам. Бачыла, як людзі без сіл падалі пасля фінішу, таму нельга абвінавачваць іх, што яны зрабілі нешта не так. Іншая справа, што трэба сістэму падрыхтоўкі змяняць увогуле. Свет жа не стаіць на месцы.

Што тычыцца слоў прэзідэнта, то, мяркую, ён мае права так казаць. Я ж не ведаю, колькі грошай было патрачана на алімпійцаў…



**Андрэй КРАЎЧАНКА, шматборац, сярэбраны прызёр Алімпіяды-2008:**

– Дрэнна выступілі беларускія алімпійцы? Беларуская зборная паказала менавіта той узровень, які ёсць на гэты момант. І, на мой погляд, нават скочылі вышэй за галаву. А ўвогуле, усё ідзе да таго, што хутка і выступаць не будзе каму. Не берагуць у нас спартсменаў, якія ёсць…

**Алесь СІВЫ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Марына АРЗАМАСАВА:

# «Пасля звычайных стартаў да атлета даходзіць толькі 55 працэнтаў прэміяльных»

*Чэмпіёнка свету ў бегу на 800 метраў распавяла "Народнай Волі", што ў яе не атрымалася на Алімпіядзе, якія грошы зарабляюць лёгкаатлеты і якой цаной яны дастаюцца.*

Марына Арзамасава – з ліку тых, каго яшчэ перад Гульнямі занеслі ў спіс патэнцыяльных медалістак. Але планы часам разыходзяцца з рэаліямі. Так бывае і ў жыцці ў цэлым, і ў спорце ў прыватнасці. Таму сёння на сваё 7-е месца на Алімпійскіх гульнях у Рыа-дэ-Жанейра спартсменка глядзіць філасофскі: як склалася, так склалася…

– На алімпійскім п'едэстале толькі тры месцы, а заваяваць медаль хочуць усе, – кажа яна. – Дык няўжо стаць сёмым на такіх прэстыжных спаборніцтвах – дрэнна? Многія пра гэта толькі мараць. Адразу скажу: я падышла да Гульняў у сваёй лепшай форме, але канкурэнцыя ў гэтым годзе была проста неверагодная. Таму да сябе ў мяне ніякіх прэтэнзій няма.

**– Пасля Алімпіяды некаторыя спартыўныя чыноўнікі казалі, што асобныя спартсмены напярэдадні выступалі на камерцыйных стартах, а таму да Гульняў не выйшлі на пік сваёй формы…**

– Гэта дакладна не пра мяне, бо я якраз-такі і прапускала дзеля Алімпійскіх гульняў многія старты. Можна сказаць, ахвяравала чэмпіянатам Еўропы, які можна і патрэбна было спакойна выйграць. У статусе чэмпіёнкі свету магла ўдзельнічаць у розных камерцыйных стартах, але ігнаравала іх. Асноўную стаўку я рабіла менавіта на Алімпіяду, таму папракнуць мяне няма ў чым.

**– Колькі, калі не сакрэт, лёгкаатлеты зарабляюць на сезонных стартах?**

– Гэта зусім малыя сумы ў параўнанні з заробкамі тых жа футбалістаў ці хакеістаў. Акрамя таго, у лёгкай атлетыцы вельмі складаная сістэма выплаты прызавых,





мы плацім шмат розных адлічэнняў. І ў залежнасці ад краіны, якая праводзіць спаборніцтвы, да атлета ў лепшым выпадку даходзіць толькі 55 працэнтаў прэміяльных. Усе кажуць: "О, перамагла на этапе "Брыльянтавай лігі"! Грошы можна грэбці лапатай…" Па-першае, пераможца этапа атрымлівае 10 тысяч долараў – гэта не такая і вялікая сума. Па-другое, паспрабуйце яшчэ выйграць. І трэцяе – ты атрымаеш, як я ўжо казала, з агульнай сумы толькі каля 5500 долараў, бо трэба заплаціць падатак у краіне, якая арганізоўвала спаборніцтвы, выдаткаваць грошы свайму агенту і трэнеру. Вось і ўся "лапата з грашыма". У дадатак да ўсяго тое, што зарабілі летам, спартсмены атрымліваюць не адразу, а толькі напрыканцы гэтага года альбо ўжо ў наступным.

**– Пасля Алімпіяды, што прайшла, віцэ-прэзідэнт НАК Максім Рыжанкоў даволі рэзка выказаўся пра вашых саперніц на дыстанцыі, якія і сталі прызёрамі Гульняў. Цытую яго словы: "На п'едэстале – тры спартсмены незразумелай гендэрнай прыналежнасці. Не стану аспрэчваць рашэнне Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі, але, калі хочаце прадаставіць такім людзям магчымасць выступаць, стварыце трэцюю катэгорыю. Але бачыць, як фактычна мужык апярэджвае дзяўчат і атрымлівае медаль… Пры гэтым яшчэ афіцыйна жыве ў шлюбе з жанчынай… У межы нашага разумення свету такое становішча спраў не вельмі ўпісваецца". А што вы думаеце пра сваіх калег "незразумелай гендэрнай прыналежнасці"?**

– У гэтай сітуацыі ад саміх спартсменаў, на жаль, нічога не залежыць, бо да нашага меркавання тут прыслухоўваюцца ў апошнюю чаргу. Не ведаю, хто і чые інтарэсы лабіруе, але на дыстанцыі змагацца з гэтымі калегамі і насамрэч вельмі і вельмі складана. Зараз, у век жорсткага допінгавага кантролю, практычна нельга паказваць тыя вынікі, якія паказваюць гэтыя спартсменкі, у якіх зашкальвае прыродны тэстастэрон. МАК дазваляе ўдзельнічаць, калі норма прыроднага тэстастэрону не больш за 10 нмоль/л. Я не так даўно праходзіла медыцынскі агляд, у мяне гэты ўзровень – 0,3. На чэмпіянаце свету, да прыкладу, патрабаванні да ўзроўню тэстастэрону іншыя, таму тая ж алімпійская чэмпіёнка Кастэр Семеня нават у фінал не трапіла. А на Алімпіядзе – іншыя правілы. І вынікі ў Кастэр зусім іншыя.

**– Марына, а на фармакалогію вы грошы са сваёй кішэні выдаткоўваеце?**

– Так, гэта даволі вялікі артыкул выдаткаў. Праўда, у апошнія два гады ў гэтым плане моцна дапамагалі і Міністэрства спорту, і федэрацыя. Але ўсё роўна нешта даводзілася, як вы кажаце, і са сваёй кішэні даставаць. Тым больш што Алімпіяда прайшла, магчыма, і фінансаванне зменшыцца.

**– Пасля Алімпіяды паспелі адпачыць з сям'ёй?**

– Пасля ў мяне былі яшчэ два старты – у Швейцарыі і Германіі, і адразу з Берліна мы з мужам на некалькі дзён паляцелі ў Францыю, на мора. У верасні там было яшчэ нармальнае надвор'е. А зараз усёй сям'ёй плануем адправіцца ў Ізраіль, дзе я збіраюся і здароўе паправіць, і адпачыць.

**Алесь СІВЫ.**

ШАШКІ

# Вочны конкурс рашэння шашачных кампазіцый

17–18 верасня ў Вільнюсе праходзіў вочны конкурс рашэння шашачных кампазіцый Саюза аматараў шашачнай кампазіцыі Літвы. Удалым быў дэбют адзінага легіянера на гэтым спаборніцтве **Віктара Шульгі** (ён таксама з'яўляецца членам гэтай грамадскай арганізацыі). Віктар атрымаў перамогу. 2-е месца заняў **Беньямін Моркус**, трэцім стаў **Віктар Студзянцоў** (абодва з Літвы).



Адзін з удзельнікаў конкурсу – **Сцяпонас Пятраускас** спецыяльна для нашай рубрыкі прапанаваў свае новыя праблемы-100. Вітаем літоўскага госця!

№1 **Белыя**: 6, 13, 19, 22, 23, 26, 28, 29, 33, 34, 40, 46 (12).

**Чорныя**: 2, 10, 11, 12, 14, 16, 17, 20, 37, 41, 45 (11).

8, 19, 21, 8, 3, 29, 39 x

№2 **Белыя**: 10, 14, 16, 17, 19, 20, 21, 22, 39, 42, 43, 45 (12).

**Чорныя**: 4, 5, 8, 13, 15, 24, 26, 29, 30, 31, 34, 37, 40 (13).

43–38, 25, 30, 18, 7, 2, 34, 34 x

## Задачы пастаяннага чытача

Актыўны ўдзельнік нашай рубрыкі з Івянца **Аляксандр Шурпін** прапануе свае задачы на 100-клетачнай дошцы. Трэба адзначыць, што галоўны варыянт задач мае рэдкі фінал "на вісу". Гэта значыць, шашка чорных пазбаўляецца хадоў не на бартавым полі, а на сярэдзіне дошкі. Такая тэма вельмі складаная для апрацоўкі.



№3 **Белыя**: 8, 12, 13, 16, 19, 23, 29, 47, дамкі 2, 24, 27 (11).

**Чорныя**: 3, 6, 10, 36, 40, дамка 39 (6).

Белыя пачынаюць і пазбаўляюць хадоў шашку чорных.

14(30**A**), 16–11, 21, 41, 27–18, 17 (12). **A**(28), 16–11, 21, 13–8, 24–8, 17, 23, 41 (36).

№4 **Белыя**: 12, 17, 19, 20, 24, 28, 29, 32, 40, 42, дамкі 14, 30, 34, 37, 45 (15).

**Чорныя**: 1, 9, 36 дамкі 3, 8 (5).

Белыя пачынаюць і пазбаўляюць хадоў шашку чорных.

7(35**A**), 25, 31, 13, 8, 18 (9). **A**(47), 41, 13, 22, 14–28, 22, 29–23, 7, 34, 15, 47 (36).

## Супаставім рашэнні

Рашэнне пазіцый, апублікаваных у "НВ" ад 16 жніўня 2016 года.

**№3** – b8, d8, h4, e7, a3 x

**№4** – d2, c:e7, e3, c7, b8 x

**№5** – g3, h4, h8(f6), a5, c3, d2 x

Першымі свае адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Уладзімір Сергіеня** (в.Войкава Уздзенскага раёна), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублеўск Круглянскага раёна), **В.Валчкоў** (Маладзечна), **Альберт Ліцвінаў** (Мінск), **Аляксандр Голуб** (п.Талька Пухавіцкага раёна), **Уладзімір Панько** (г.Камянец).

## Прапануюць адэсіты

Працягваем знаёмства з творчасцю прадстаўнікоў адэскай школы шашачнай кампазіцыі. У пазіцыях **Сяргея Губачкіна** белыя пачынаюць і выйграюць.

№5 **Белыя**: b4, b6 ,c5, c7, d6, e5, h2 (7).

**Чорныя**: b2 ,d2, c3, g3, f4, h4, a5, f8 (8).

d8, b8(a5**A**), cb6(c7**B**), e1, a1(f2, f2), g3, e5(g7), h8, d4, g1 x **B**(d6), a1 і далей, як у галоўным варыянце **A**(d6), a3, f4 x

№6 **Белыя**: d6, e5, e7, f4, f6, g5 (6).

**Чорныя**: b4, c5, d2, e3, f2, f8, h4 (7).

c7, d6, d8, a5, d2(h4), f4(a7), c7 x

№7 **Белыя**: b4, b6, d4, d6, c5, c7, e5, h2, h4 (9).

**Чорныя**: a5, b2, c3, d2, d8, e3, f2, f4, g3 (9).

g5, f4, b8, b6(c7–a5**A**), e7, g7(e5**B**), a1(f8**C**), c3(h4), a1, e5(g7), h8, d4, g1 x **C**(c3), h4 x **B**(f8), c7, a1, h4 x **A**(c3–a5), e7, g7!, b6–a1! x

У наступных праблемах **Сяргея Губачкіна в**ыйгрыш за белых знайдзіце самастойна.

№8 **Белыя**: a5, b6, c5, c7, e7, f6 (6).

**Чорныя**: a7, b2, c3, d2, d8, f4, h4, g5 (8).

Пазіцыя з нескладанай апрацоўкай В.Шульгі.

№9 **Белыя**: a7, b6, f6, h6, e5, g5, d4 (7).

**Чорныя**: b4, b8, c5, d2, d8, e3, f2, h4 (8).

№10 **Белыя**: a3, c1, c5, e3, e5, f4, h2 (7).

**Чорныя**: d2, d6, g3, b4, a5, a7, c7, e7, g7 (9).

№11 **Белыя**: b4, f4, c5, e5, b6, d6, h6, c7, e7 (9).

**Чорныя**: b2, d2, c3, a5, g7, b8, f8, h8 (8).

№12 **Белыя**: g3, b4, d4, f4, e5, g5, b6, c7 (8).

**Чорныя**: b2, d2, h2, c3, a5, d6, g7, b8, d8, f8 (10).

Гэта наш чарговы бліц-конкурс. Пераможца атрымае прыз – шашачную кнігу.

## Запрашаем для ўдзелу ў завочнай гульні

Хто жадае ўзяць удзел у адкрытым чэмпіянаце г.Мінска па перапісцы, прапануем тэлефанаваць сакратару чэмпіянату **Уладзіміру Мікалаевічу Бандарыку** – (8017) 501-50-34.

Свае лісты дасылайце на адрас: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, "Шашкі"

або на электронны адрас рэдакцыі: **saf20016@yandex.ru, shulga.checkers@gmail.com.**

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**




Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 17.10.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 3791